ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

15 ВЕРАСНЯ 1995 г. № 37 (3809) Кошт 2 000 руб.



# МАСТАЦКІХ КРЫЗІСАЎ НЕ ВЕДАЕМ...

## У КУПАЛАЎЦАЎ — ЮБІЛЕЙ

Што каму ўяўляецца ў звязку са словазлучэннем "Купалаўскі тэатр"? Не можаце адказаць хутка-проста? Так мне і адказалі: "Салідны тэатр. Дай падумаць". Перапыталі неўзабаве: "Пытаешся толькі пра мастацтва альбо пра жыццё таксама?" Пытаюся пра ўсё. Пытаюся — да семдзесят пятай тэатральнай гадавіны, якую сам тэатр яшчэ пэўна не ведае, калі адзначыць (прынамсі, нам не паведаміў), а каляндар ужо адзначыў. Учора. 14 верасня.

Сама спадарыня Эліза Ажэшка проста ў 1920 паўстала ля вытокаў ягонай інтэлектуальна-пачуццёвай настраенасці; гледачы пабачылі спектакль "Рысь" — радаводам з яе апавядання "У зімовы вечар". Сам спадар Купала, перш як ганараваць будынак сваім імем на франтоне, меў процьму аўтарскіх перажыванняў з нагоды ўвасабленняў, а часцей — неўвасабленняў тут сваіх п'ес. Спадар Авяр'янаў па імені Юры вылучыўся праз шмат гадоў, здавалася б, шараговаю роляю. Заходняга вучонага ў Купалавых "Тутэйшых", каб крыху спагадзя, ужо ў іншай пастаноўцы паводле спадара Дуніна-Марцінкевіча, спраўдзіць развіццё прыдуманага героя... ужо на імя Банавентура Выкрутач. Спраўдзіць так, што развіццё й ягоныя вынікі вымагаюць і досціпу, і доследу. Увогуле акцёрскія пярліны, парассыпаныя па розных спектаклях і розных сезонах, збіраць можна толькі ў звязку з адметным жаночым імем — Клара на прозвішча Мізгайла. Яна па-ранейшаму захоўвае, лепш сказаць — ахоўвае купалаўскі тэатральны архіў ад несістэматычнасці ды выпадковасці. Як і ад журналісцкіх замахаў. Адказвае толькі на спагадлівыя просьбы. Так што перш як папрасіць, трэба сама менш палюбіць купалаўскі тэатр. У бляску і ў рамонце. Ці не кожны з іх, рамонтаў, канчаецца фарбаваннем сцен і дагляданнем глядацкіх крэслаў. Апошні шанц, здаецца, скарыстаны ўжо — у 1974 годзе стараннямі спадароў Раеўскага ды Герлавана. Ён так іназываўся — "Апошні шанц", і на купалаўскай афішы стала і засталося прозвішча спадара Быкава. Засталося, як застаецца напісанае, дарэчы, руплівасцю спадара Петрашкевіча і "Напісанае засталося", а ў ролі Францішка Скарыны выходзіў да публікі сам спадар Тарасаў. Ён тады яшчэ не зрабіўся гераічным аўтобусным кіроўцам савецкага тэлесерыялу. Але на купалаўскай сцэне, здаецца, пераіграў-пераўвасобіў усе варыянты нашых і вашых сучаснікаў, кідаючы выклік... Выклік прыпаў на 1966 год і праз спадара Дзялендзіка займеў назоў "Выклік багам"! Увогуле год 1966 можна было б згадаць адметным паводле, мовім так, асацыятыўнага шэрагу, бо "Выклік багам" кідалі "Людзі на балоце" з "Сэрцам на далоні". Тры беларускія драматургі (або пісьменнікі) сышліся на афішы: Дзялендзік, Мележ і Шамякін. Пры ўсіх драматургавых прозвішчах сціпла значылася: рэжысёр Барыс Эрын. Ён кіраваў усімі пастаноўкамі, ён і апраўдваўся за магчымыя непаразуменні мастацтва з тымі гледачамі, якія наведваліся ў тэатр ці то пернікі раздаваць, ці то пугаю ляскаць. Займалі зазвычай цэнтральную ложу. Цікава было б спытацца ў фотакарэспандэнта Уладзіміра Крука, чый тэатральны летапіс, па бальшыні сваёй, вы бачыце сёння на гэтых старонках, ці выпадала яму хоць калі здымаць масавыя сцэны са зручных кропак цэнтральнай ложы? Хоць пры Глебаве, Стоме, Ржэцкай, Рахленку? "Праўду, нічога, акрамя праўды!!!" — ціхусенька сказалі б мы спадару Круку, беручы пад

*(Працяг на стар. 10-11)*



*Стары будынак тэатра*



*«Паўлінка» Янкі Купалы. А.Памазан (пан Быкоўскі), А.Доўгая (Паўлінка)*



*Юры Авяр'янаў*

Прэзентацыі

# ВУЧЫЦЦА... У КІПЕЛЯЎ

Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор» і Саюз пісьменнікаў Беларусі наладзілі ў панядзелак у Доме літаратара прэзентацыю серыі кніг «Беларускія паэты і пісьменнікі на эміграцыі», што выпускае ў Нью-Йорку Беларускі інстытут навукі і мастацтва. На яе былі запрошаны шаноўныя госці, знакамітыя прадстаўнікі беларускага замежжа — муж і жонка Кіпелі. Спадар Вітаўт, як вядома, з'яўляецца дырэктарам згаданага інстытута, акрамя таго, сябрам Беларускага ПЭН-цэнтра. Спадарыня ж Зора — бібліёграф, навуковы супрацоўнік Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі.

Аднак першыя ўжо хвіліны прэзентацыі пераканалі, што гаворка набывае больш шырокі аспект, чым меркавалася. Сустрэча стала, як пазней падкрэсліла старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Г.Сурмач, адначасова і прэзентацыяй самаго Беларускага інстытута навукі і мастацтва, установы, уплыў якой на жыццё беларускай дыяспары вельмі адчувальны, а роля ў нацыянальным Адраджэнні надзіва вялікая.

Пра тое, што ўяўляе сабой гэты па-сапраўднаму даследчыцкі цэнтр, расказаў В.Кіпель. Інстытут быў створаны ў 1951 годзе. Ініцыятарамі гэтай важнай справы сталі Л.Акіншэвіч, М.Дарашэвіч, Я.Ліманоўскі, Н.Арсеннева і іншыя. Ставілася за мэту друкаваць творы прадстаўнікоў эміграцыі, навуковыя працы, у тым ліку і па гістарычнай тэматыцы, найперш таго кірунку, які абыходзіўся ўвагай афіцыйнай навукі ў БССР. У інстытуце былі створаны тры секцыі — літаратурная, гістарычная і агульнага беларусазнаўства. Пачалі выдавацца «Запісы...» (выходзяць па сённяшні дзень), з'явіўся часопіс «Конадні» (на жаль, спыніў свой выпуск на сёмым нумары). Інстытут з'яўляецца грамадскай, як кажуць, установай, ён вымушаны сам клапаціцца аб сваім існаванні. Фінансавае становішча вырашаецца шляхам так званых складак — цяпер 150 долараў у год... Акрамя таго, прадаюцца кнігі, выпушчаныя пад яго эгідай. Супрацоўнікі інстытута прымаюць удзел у розных канферэнцыях, выходзяць на студэнтаў беларускага паходжання, каб праз іх наладзіць кантакты з рознымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі.

Пра выпуск жа згаданай серыі расказала З.Кіпель. Уласна кажучы, серыяй гэтыя выданні сталі пачынаючы з трэцяй кнігі — выбранага А.Саковіч (І.Рытар) «У пошуках праўды». На вокладцы ж першых двух аднатомнікаў — «Між берагоў» Н.Арсенневай (пабачыў свет яшчэ ў 1979 годзе) і «Нятусклая краса» А.Салаўя адпаведнай адзнакі не было.

Выйшлі таксама зборнікі выбранага М.Кавыля «Міжагнёўе», У.Дудзіцкага «Напярэймы жаданням» і М.Целеша «Хмары над Бацькаўшчынай». Вокладку ўсіх шасці тамоў афарміла маладая мастачка І.Рагалевіч. Акрамя мастацкіх твораў, змяшчаюцца крытычныя, бібліяграфічныя матэрыялы, даецца кароткая даведка пра аўтара па-англійску. Навуковы ўзровень выдання павысіўся апошнім часам, калі да гэтай важнай справы далучыліся даследчыкі, якія прыехалі з Беларусі, — Лявон Юрэвіч і яго маці Алена Казіміраўна.

З аповядаў спадароў Кіпеляў прысутныя даведаліся і пра кнігі, якія інстытут выпусціць у бліжэйшы час. Цяпер у наборы знаходзіцца аб'ёмны (40 тысяч слоў) «Англельска-беларускі слоўнік», аўтарам якога з'яўляецца В.Пашкевіч. Плануецца яго выдаць накладам 40—50 тысяч экземпляраў і, за выключэннем 500 адпаведнікаў, увесь накіраваць на Бацькаўшчыну. Вядзецца работа над Зборам твораў Ю.Віцьбіча ў трох тамах. Першы з іх «Антысавецкія паўстанні на Беларусі» павінен убачыць свет сёлета. А ў перспектыве і іншыя выданні. У эміграцыі ж жыло нямала пісьменнікаў, пра якіх на Бацькаўшчыне мала хто сёння ведае.

Як бачым, інстытутам зроблена вельмі шмат. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы выдаўцу М.Прускаму, пра якога з прыязнасцю гаварыў В.Кіпель, адзначаючы, што той заўсёды знаходзіць магчымасць, каб запланаваны тыраж павялічыць яшчэ на якую тысячу экземпляраў. Увогуле ж, як для эміграцыі, наклад серыі не такі і малы. Скажам, аднатомнік Н.Арсенневай выйшаў колькасцю 5 тысяч экземпляраў.

У час жа прэзентацыі шмат цёплых слоў было сказана ў адрас спадароў Кіпеляў. Яны прагучалі з вуснаў прэзідэнта Міжнароднага фонду «Беларускі кнігазбор» К.Цвіркі, які быў вядучым сустрэчы, прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусаў свету А.Мальдзіса, Г.Бураўкіна, Н.Гілевіча, П.Краўчанкі, В.Коўтун, Г.Сурмач, Я.Лецкі і іншых.

Дзякуючы спадарам Кіпелям, дзякуючы ўсім, хто працуе ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва і хто мае самае непасрэднае дачыненне да яго даследніцкай і выдавецкай дзейнасці, і ўсе мы, каму дарагія ідэі нацыянальнага Адраджэння, успрымаем родным для сябе беларускае замежжа. Прынамсі, літаратурнае. Ну а наконт таго, што цяперашнім часам, здаецца, умовы і не такія спрыяльныя дзеля адраджэнскай працы, — дык, як слушна адзначыла Г.Сурмач, спадары Кіпелі паказалі, як трэба працаваць, незалежна ад умоў і часу і з аптымізмам глядзець у будучыню.

**А.М.**

---

цыю, нервова ўздрыгвае, калі да яго набліжаецца амонавец. Уздрыгвае, бо ведае, якімі подзвігамі ў апошні час слаўны беларускі АМОН...

І ўсё ж не тэарэтызаванне на эканамічныя тэмы сёння асноўны клопат прэзідэнта, ягоны галаўны боль. А.Лукашэнка — чалавек, якому дагэтуль неверагодна шэнціла, перажывае першую сур'ёзную паразу. Не, я маю на ўвазе не тое, што да ўчарашняга дня Міжнародны валютны фонд адмаўляўся фінансаваць гэты самы «рынкавы сацыялізм» у Беларусі. На Захад сп.Лукашэнка ніколі асабліва не спадзяваўся. І няскончаны канфлікт дзяржавы з транспартнікамі наўрад ці ўспрымаецца прэзідэнтам як параза.

Параза — у іншым.

Здаецца, разам з фарбамі лета ў прадчуванні зімовых халадоў адыходзіць і «пасляпэферэндумная» эйфарыя прэзідэнта. У ігнараванні Канстытуцыі А.Лукашэнка зайшоў так далёка, што нават асцярожны Мечаслаў Грыб быў вымушаны з трыбуны Вярхоўнага Савета аб гэтым заявіць. За дыпламатычнымі фармулёўкамі сп.Грыба адназначна прачытваецца: заканадаўчая ўлада — над выканаўчай, Канстытуцыя і парламент — над прэзідэнтам. Не астаўся ўбаку і старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня, які дагэтуль спрабаваў пазбегнуць канфліктаў з прэзідэнтам. Канстытуцыйны суд узяўся разгледзець шэраг прэзідэнцкіх указаў на прадмет адпаведнасці іх Асноўнаму Закону краіны.

Хто пераможа ў сённяшнім супрацьстаянні — прэзідэнт альбо абаронцы Канстытуцыі? Спікер М.Грыб сказаў днямі на прэс-канферэнцыі, што ад гэтага супрацьстаяння «можна чакаць, чаго хочаце».

Хацелася б здаровага сэнсу. Каб краіна мела прыстойныя герб і сцяг, мудры парламент і законапаслухмянага прэзідэнта.

Але гэта ўжо — як Бог дасць.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

Васіль БЫКАЎ

# КУЛЬТУРА І ПОСТТАТАЛІТАРНАЕ ГРАМАДСТВА

З'яўляючыся адным з асноўных элементаў чалавечага існавання, культура ў той жа час ніколі не мела характару аўтаномнага функцыянавання, заўсёды займала другаснае, падначаленае становішча ў грамадстве, абслугоўвала ўладу ці багацце, ці абедзве гэтыя сілы разам. Так было, мабыць, з першабытна-абшчыннага ладу, затым у феадальным і буржуазным грамадствах, тым больш — у таталітарным. Розніца двух апошніх у іх адносінах да культуры была хіба ў тым, што ў першым мастака куплялі за грошы, а ў другім — за лагерную пайку, якая, зрэшты, была даражэй, бо давала магчымасць жыць. Прыкладна тое ж мы бачым і ў нашым посттаталітарным грамадстве, якое, здаецца, робіць даволі арыгінальную ў гісторыі спробу — абысціся зусім без культуры.

Культуру і мастака заўжды падаўлялі і знявольвалі. Формы тае няволі былі розныя ў розныя гістарычныя эпохі, таксама як і іхнія мэты і прычыны. У той жа час культура і асабліва мастацтва спантанна імкнуліся да свабоды, калі не да аўтаномнага існавання, дык хоць бы да развіцця па ўласных, уласцівых толькі для іх законах. Мадэрнізм, авангард, абстракцыянізм у мастацтве — апроч іншага, частка ранейшых ды і сучасных, парой роспачных спроб вырвацца на волю, да незалежнасці ад грошай і асабліва ўлады, якая, як пісаў Осіп Мандэльштам, «отвратительна, как руки брадобрея». Але, як заўжды, тыя спробы ні да чаго не прыводзілі, улада і грошы заўжды былі дужэй і спраўлялі перамогу. Апошнюю, чарговую спробу такога роду мы назіраем зараз, ва ўмовах эфемернай нашай дэмакратыі. У адрозненне ад ранейшых часоў сучасная культура выяўляе ў сабе парадаксальную схільнасць да самаразбурэння, якую цяжка ўявіць калі-небудзь у яе мінулым. У сілу шэрагу прычын, галоўным чынам эканамічных, а таксама трываючы на сабе высакамерную пагарду ды нацыянальную незапатрабаванасць тэхналагічнага грамадства, сучасная культура, падобна на тое, ператвараецца ў абсурд. Галоўным сродкам мастацкай выяўнасці амаль усіх відаў мастацтваў робіцца эпатаж, шокінг; эстэтыка музычнага выяўлення даўно ўвасобілася ў колькасці дэцыбелаў; традыцыйна табуяваны ў хрысціянскай культуры секс набывае галоўны змест усіх візуальных сродкаў мастацтва і паспяхова ўкараняецца ў літаратуры. Вызначальная ў культуры катэгорыя якасці спрэс падмяняецца супрацьлеглай катэгорыяй колькасці, грандыёза, якія, бы ў фінансавай сферы, робяцца вызначальнымі поспеху. Стандарты камерцыйна-гандлёвай маскультуры амаль цалкам захапілі музыку, кіно, выяўленчае мастацтва, паспяхова апаноўваюць тэатр і літаратуру. Прыгажосць з вышэйшага, сакральнага боства, якім была ў чалавечай цывілізацыі, ператвараецца ў папулярны шырспажыў, крыніцу мільённых прыбыткаў для спрытнюг і нахабнікаў ад мастацтваў, чаму не ў малой ступені садзейнічаюць пэўныя палітычныя сілы, зразумела, ва ўласных, сугуба палітычных мэтах. Можна смела сцвярджаць, што маскультура — не культура наогул, якой часам здаецца, а яе антыпод, немінучы яе магільшчык.

Вядома, што гісторыя культуры заўсёды была поўная дзівос, парадоксаў, інфернальных загадак. Але ёсць і пэўныя ісціны, так бы мовіць, культурныя імператывы, якія нельга абвергнуць. Так, зусім відавочна, што для дыктатарскага рэжыму культура — сірата, таталітарызму яна непатрэбная. Фашызм і бальшавізм ужо засведчылі ў XX стагоддзі сваю поўную несумяшчальнасць з культурай. Тое, што заснавана на няволі і прымусе, не мае патрэбы ў прыгажосці і праўдзе. У той жа час застаецца незразумела, чаму куцыя рудыменты расійскай культуры спатрэбіліся сталінскаму рэжыму. Хіба той спробай выкараніць буржуазна-дваранскую культуру, замяніўшы яе сурагатам рэвалюцыйна-камуністычнай субкультуры? Крывадушнасць, у шырокіх маштабах уласцівая сталіншчыне, у дадзеным выпадку не надта паддаецца разуменню. У гэтым сэнсе куды болей цэльнай, хаця і не менш антычалавечнай, выглядае палітыка Гітлера ў адносінах да еўрапейскай культуры. Рашуча кінуўшы яе на знішчэнне ў кастры і канцлагеры, ён затым, як вядома, кожны раз хапаўся за рэвальвер, калі гаворка заходзіла пра культуру. Напэўна, таксама вельмі выразнай з'яўляецца палітыка некаторых постсавецкіх рэжымаў, якія з першых дзён свайго ўладарання па сутнасці аддзялілі культуру ад дзяржавы, замест крывадушна наблізіўшы да яе рэлігію. У некаторых адносінах гэта было б нават прымальна: няўвага да культуры заўжды болей спрыяльная, чым празмерная яе апека. Але грэбаванне сапраўднай культурай, як правіла, суправаджаецца непрыхаванай падтрымкай не лепшай яе часткі — палітызаванай маскультуры, — той маскультуры, якая, па сведчанні некаторых заходніх культуролагаў, з'яўляецца прадуктам распаду еўрапейскай культуры наогул. Грамадская небяспека гэтае з'явы палягае ў тым, што прадукты яе распаду дзейнічаюць не толькі на амбіцыі дыктатараў, сілкуюць іх дыктатарскія эмоцыі, але і атручваюць свядомасць масавага грамадства, актыўна пранікаючы ў падсвядомасць, на генетычным узроўні развіваюць далёка не лепшыя інстынкты, закладзеныя ў чалавека дзікай прыродай. Нескароная ўлада нізкіх інстынктаў з маскультуры так ці інакш пранікае ў эканоміку, палітыку, цалкам абслугоўвае крыміналітэт, у горшы бок мяняе гістарычна сфармаваны менталітэт этнасаў. (Мала ім было нацызму з камунізмам, дык цяпер яшчэ і маскульт).

Але што ж чалавек, грамадзянін, індывідуум грамадства? Што наша слынная інтэлігенцыя? У тым ліку і творчая? Што наша і сусветная мастацкая эліта? Што, нарэшце, мастак? Хіба адзіная для яго магчымасць — бездапаможна назіраць катастрофу, ці, як пісаў адзін расійскі інтэлектуал, — стаіцца ў адзіночнай камеры ведаў? Або — канфармізм і капітуляцыя перад разбуральнай сілай антыкультуры?

Думаю — не!

Як і заўжды і ва ўсе часы, мастак-творца, апроч таго, яшчэ і грамадзянін. А ў дадзеным выпадку ў адрозненне ад звычайных чалавечых здольнасцей яшчэ і валадар боскага дару — свайго таленту. Антыгуманна і бязбожна, калі ён гэты свой дар кіне свінням. Усё ж ён мае пэўныя магчымасці абараніць сябе і сваё мастацтва — ад улады таталітарызму і дыктатуры грошай, а ў некаторых выпадках і спекулянцкіх ідэй, нават калі яны завалодалі масамі. Вядома, свет наўрад ці ўратуе прыгажосць, якая і сама заўжды мае патрэбу ў паратунку, але абарона прыгожага на зямлі і на небе заўсёды была святою, боскаю справай. Асабліва ва ўмовах, якія пагражаюць калі не існаванню самога чалавека, дык, безумоўна, — Бога ў чалавеку. Адмова ад такой абароны, пазіцыя «над схваткай», зманлівага цяпер індывідуалізму асуджае мастака на паразу, а культуру — на выраджэнне. Кожнае з апраўданняў пазіцыі індыферэнтнасці, няўдзелу не мае ніякай падставы, бо з'яўляецца па сутнасці апраўданнем бяссілля і канфармізму, мяркуе духоўную калабарацыю з дыктатурай. А шмат у якіх выпадках і здраду. У дачыненні да культуры, да нацыі, якая ў драматычных умовах гістарычнага існавання выгадавала сваю культуру, каб перадаць яе нашчадкам — для ашчаджэння і развіцця. Нарэшце гэта здрада ў адносінах да боскага пачатку, закладзена ў чалавеку. Асабліва заганна пры гэтым масавая здрада ў форме масавай ангажаванасці, распаўсюджанай калісь пры нацысцкіх і камуністычных рэжымах і, як відаць, цалкам верагоднай ва ўмовах пэўнай нестабільнасці сучаснага масавага грамадства. Культура цяпер нібы стаілася, збянтэжаная, перад загадкавым выракам: быць ці не быць? Аднак, на добры розум, няцяжка зразумець найбольшую верагоднасць таго выраку.

Як гэта ні сумна, трэба прызнаць, што гісторыя сапраўды нічому не вучыць. Зараз, як і заўжды, наперадзе культуры і нават наперадзе эканомікі — зноў ідэалогія з яе імперскай палітыкай, якія спакваля падпарадкоўваюць сабе ўсё, у тым ліку і правы чалавека. Улада чырвона-карычневых з нядаўняга фантому ператвараецца для нас у чорную рэальнасць. І што асабліва засмучае — не без удзелу некаторай часткі інтэлігенцыі, дзеячаў нашай культуры. Вядома, традыцыі духоўнага канфармізму старыя, як свет, але калі яшчэ нядаўна яны мелі ідэалагічнае паходжанне, дык цяпер выключна меркантыльнае. Антыкультура цяпер мае вялікія грошы, якімі яе забяспечваюць таксама і дыктатарскія рэжымы, што паспяхова мімікруюць пад дэмакратыю. Яны штурхаюць культуру на ўзровень служкі за ўсё і з яе дапамогай канчаткова нішчаць і без таго ніцыя парасткі дэмакратыі. У масавай свядомасці між тым ідзе актыўны працэс дыскрэдытацыі ідэй дэмакратыі наогул. Уласная дэмакратыя для беларусаў па-ранейшаму вельмі праблемная нават у аддаленай будучыні.

У гэткіх умовах, як мне здаецца, адзінаю магчымасцю папярэдзіць агонію культуры будзе адраджэнне нацыянальнай культуры на еўрапейскіх гуманістычных традыцыях, якія доўга падаўляліся ў нас і атрымалі некаторы шанс зараз. Менавіта гэтыя традыцыі яшчэ могуць паслужыць нацыі і чалавецтву. Само па сабе зразумела, што для культуры сапраўды гуманістычнай не можа быць тэрытарыяльных межаў, яна бязмежная ў прасторы і, будучы нацыянальнай па паходжанні, належыць усяму чалавецтву. Яна — прадукт чалавечай цывілізацыі, існасць яе нязменных каштоўнасцей. Складанасць гэтай праблемы, аднак у тым, што для адраджэння і развіцця сапраўды нацыянальнай і сапраўды гуманістычнай культуры патрэбна дабратворная атмасфера, адкрытае свету, зусім дэмакратычнае грамадства, да якога мы толькі імкнёмся. А без дэмакратыі, якой бы праблематычнай яна ні была, няма будучыні, як няма і самой культуры.

Шаноўныя калегі! Спадары і спадарыні!

Усё мной сказанае найбольш зыходзіць з вопыту маёй краіны і адносіцца да Беларусі. У іншых краінах, болей дэмакратычных грамадствах гэтая праблема можа выглядаць інакш. Ладзіўшы гэтае мерапрыемства, мы не мелі на ўвазе выдаць нейкія рэцэпты ў справе ратавання дэмакратыі ці культуры, мы выдатна разумеем велічыню гэтае справы і ўсю абмежаванасць нашых магчымасцей. Але ў гэты складаны час, калі перад чалавецтвам бліснула надзея, якая надта лёгка можа ператварыцца ў роспач, паявілася патрэба сабрацца і памеркаваць. Усё ж мы валодаем пэўным вопытам непадлегласці злу, вопытам, якога можа не хапіць наступным пакаленням. Менавіта таму клопат пра будучыню чалавецтва, лёс нацый, фундаментальныя каштоўнасці хрысціянскай цывілізацыі абавязваюць нас сказаць сваё слова, якое, можа быць, будзе пачута не толькі ў гэтай зале.

**Як мы і абяцалі, пачынаем знаёміць вас з асобнымі выступленнямі, што прагучалі на Другім Міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры «Незалежная прэса: свабода і адказнасць». Гэтым разам слова народнаму пісьменніку Беларусі, прэзідэнту Беларускага ПЭН-цэнтра Васілю БЫКАВУ і народнаму паэту Беларусі старшыні рэвізійнай камісіі Беларускага ПЭН-цэнтра Рыгору БАРАДУЛІНУ.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ



**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшоў семінар, які арганізаваны беларускім аб'яднаннем татараў «Аль-кітаб», што ў перакладзе азначае «Свяшчэнная Кніга». Мэта яго — узняць цікавасць да культуры беларускіх татараў.**

**Сёлета спаўняецца 600 гадоў з таго часу, як яны пасяліліся на Беларусі. Цяпер у рэспубліцы іх налічваецца больш за дванаццаць тысяч.**

**Удзельнікі семінара пазнаёміліся з выставай рэдкіх старадаўніх татарскіх кніг, галоўнай асаблівасцю якіх з'яўляецца тое, што беларускія тэксты напісаны там арабскай графікай. Гэтыя кнігі датуюцца XVI стагоддзем.**

*На здымку: Якуб Якубоўскі дэманструе старадаўні татарскі кітаб, што ў перакладзе азначае кніга, у якой сабраны легенды, казкі і казанні.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАР*

## АЎТАР БОЛЬШ ЗА 200 ПРАЦ

**140 гадоў назад (11 верасня 1855 года) у Нова-Беліцы, якая цяпер у складзе Гомеля, нарадзіўся вядомы беларускі этнограф, фалькларыст і археолаг Еўдакім Раманаў. Ён належаў да тых, хто плённа і мэтанакіравана даследаваў матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, вывучаў сямейны побыт народа, яго абрады, вераванні. Звяртаў Е.Раманаў пільную ўвагу і на адметнасць народнага календара, не абыходзіў увагай народную медыцыну, скіроўваў позірк на аналіз дзіцячых гульняў. Адным словам, гэта быў даследчык шырокага профілю і ў розных галінах сваёй навуковай дзейнасці дасягнуў вялікага поспеху. Ды і валодаў Е.Раманаў вялікай працаздольнасцю. Ён апублікаваў больш за 200 прац, а таксама больш за 10 тысяч фальклорных твораў.**

**Па-ранейшаму вялікую цікавасць уяўляе асноўная праца Е.Раманава — этнаграфічны «Беларускі зборнік», дзевяць выпускаў якога пабачылі свет на працягу 1886—1912 гадоў. Гэта — свайго роду энцыклапедыя побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу.**

**Праявіў сябе Е.Раманаў і як археолаг. У 1886—1894 гадах ён праводзіў раскопкі ў Магілёўскай і Віцебскай губернях, а ў выніку ім быў адкрыты унікальны помнік XII стагоддзя Барысаў камень (каля вёскі Высокі Гарадзец цяперашняга Талачынскага раёна). Е.Раманавым складзены археалагічныя карты Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў. Цудоўныя вынікі дало і даследаванне ім гарадзішчаў — пра 1000 гэтых помнікаў сабраў ён дасканалыя звесткі. Акрамя таго, выявіў нямала стаянак першабытнага чалавека.**

**Цікавіўся Е.Раманаў і літаратурай. У прыватнасці, ён папулярызаваў творы Ф.Багушэвіча і В.Дуніна-Марцінкевіча, а ў 1900 годзе выдаў зборнік «Тарас на Парнасе і выдатныя іншыя беларускія вершы». Другое, дапоўненае, выданне гэтай кнігі з'явілася ў 1902 годзе.**

## І ЗНОЎ ПРА ВІЦЕБСК...

**Не паспелі аматары гісторыі па вартасцях ацаніць кнігу М.Нікіфароўскага «Старонкі з блізкай даўніны горада Віцебска», як выдавецтва «Полымя» падрыхтавала ім чарговы падарунак. Гэтым разам у серыі «Помнікі беларускага дойлідства». Яе папоўніла брашура Ю.Кішыка «Панарама старога Віцебска». Узнаўляецца колішні воблік горада на Дзвіне, а відочна паўстае ён праз даўнія архітэктурныя збудаванні. З кнігі можна атрымаць дастаткова поўнае ўяўленне пра планіроўку і забудову Віцебска канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя.**

Рыгор БАРАДУЛІН

# ВЯРНІ НАМ БАЦЬКАЎШЧЫНУ, БОЖА!

Існуе колькі метадаў утрымання жывёлы, у прыватнасці буйнарагатай. Выпасавы, вольны, дзе льга выбіраць травы, каб болей сакавітыя, болей маладыя былі. І загонны, абмежаваны загараддзю, пазней дротам, па якім пускаецца электраток. З'явіўся і электрапастух.

Тое самае і ў людскім грамадстве. Калі каго абражае гэтакая паралель, хай прыгадае падручнікавае выслоўе з лаціны: «Homo social animal est».

Гэта, здаецца, ленінскае вынаходніцтва — канцлагеры для інакшадумцаў, для контры, як любілі казаць прадстаўнікі партыі рэцыдывістаў, верныя ленінцы. Потым у лагер, назваўшы яго лагерам сацыялізму, загналі ледзь не палову Еўропы. Мяне заўсягды цешыла ўкраінскае гучанне: табар сацыялізму. Што нагадвала трывалае беларускае ўяўленне пра цыганскі табар, з ягонымі звычкамі й норавамі, з ягонай іерархіяй. Для паднявольнікаў чырвонай імперыі былі паўночныя курорты, дзе халадзіліся гарачыя галовы, дзе складалі галовы непрымальнікі камунафашыстоўскага рэжыму. Гэта былі зоны ГУЛАГа, які Салжаніцын назваў архіпелагам. Гэты архіпелаг і быў хрыбтом савецкай імперыі. І хоць фармальна ён знік, але дасюль трымаецца й трымае зусім няпрывідную зону сацыялізму, бо хрыбет, хрыбціна трываліцца на страху. Спрабуюць рэанімаваць імперыю, назваўшы фантомнае ўтварэнне, якое трываліць вядомая служба, служба вечная пры любых рэжымах, СНД, адно ў абрэвіятуры не стае і, бо тады б гучала СНІД.

Наогул, камуністы з лёгкай рукі Леніна любілі абрэвіятуры да смехатуры. Хіба не пацешна гучала КПЗБ (камэра папярэдняга зняволення Беларусі). На справе пад канец так і сталася.

Не толькі па бальшавіцкай інерцыі з'явілася ў нас абрэвіятура РБ (Рэспубліка Беларусь). І на кожным кроку й радыёгуку афіцыйнікі перад назовам Беларусь абавязкова коцяць гэтакі паравозік — рэспубліка. Існа незалежная Дзяржава з рэспубліканскім ладам кшталту Францыі ці нашай суседкі Польшчы не дужа часта ўжываюць слова рэспубліка ў саманазове. Хіба ў дзяржаўных ці судовых чынах. Рэспубліка Беларусь — падкрэсліваецца, выклікаецца з падкоркі «Союз нерушимый республик...» Дзякуй Богу, цяпер ужо калі не зусім «нерешимый, так трудно решимый союз, вопрос о нем». У расійскай мове ёсць паняцце «ходить юзом, бежать юзом», так бы мовіць, улукаткі. І сапраўды, у імперыі, ці ў «союзе советских социалистических республик» аж 70 гадоў нахадзіліся, набегаліся ўлукаткі, «насоюзничались». А саюз непарушны рэспублік свабодных «сплотила навеки великая Русь». Доўга распавядаць, як Масковія ўзяла сабе чужы саманазоў, дзе гэтая Русь была, хто можа мянавацца рускім. Зусім недалёкая паралель з прусамі, з Прусіяй. Мне толькі ў савецка-вялікадзяржаўніцкім гімне пры слове «сплотила» чулася: абнесла суцэльным плотам з калючым дротам, згулажыла. І ў выніку: «От Москвы до самых до окраин, с южных гор до северных морей человек проходит как хозяин необъятной родины своей». Свайго ж Казьму Пруткова забыліся расійскія хваласпеўцы: нельга абняць неабдымнае. Затое ў цэнтры — Масква, а ўсе іншыя рэспублікі самыя што ні ёсць ускраіны. З кожнага народа выбівалася адчуванне самабытнасці, самастойнасці, гістарычнай памяці. А найболей — з беларускага. Чужакі клапаціліся пра ягоны саманазоў, пра імя ягонай зямлі, хрысцячы яе то «северо-западным краем», то «крэсамі ўсходнімі». Беларускую душу то абмаскальвалі, то апалячвалі, вытручвалі з яе ўсведамленне дзяржаўнасці, непадлегласці. Працавалі й працуюць цэлыя інстытуты, у прыватнасці Лубянкі, каб дэнацыяналізаваць «инородцев» (любімае слоўка вялікадзяржаўнікаў), каб зрушыць генетычны код былых насельнікаў імперыі, у прыватнасці беларусаў. Спрадвечную беларускую талерантнасць, дзе раскашаваліся й вольна пачувалі сябе народы й рэлігіі, самазваны «старший брат» разумее па-свойму, замяніўшы яго тэрмінам хутчэй з авечкагадоўлі — рахманасць.

І нерашучасць і неўраўнаважанасць беларуская йдзе яшчэ й ад таго, што беларус не чуе родную мову ні на ўрадава-чынавенцкім узроўні, ні нават на побытавым, асабліва ў гарадах, якія планава засяляліся небеларусамі. Дзямянцееўка ці лукашэвіца толькі цьвеляць нават таго беларуса, што наважыўся ўспомніць матчыну мову. Імперыі расійская, а потым савецкая, а цяпер неакамуністы стварылі такое становішча моўна-псіхалагічнае й грамадскае, што беларус і на спаконнай сваёй зямлі, у пакутнай Беларусі не пачувае сябе дома. Ён як бы кватарант, ці, як у нас на Ушаччыне кажуць, кутнік. (Калі ўзяць і значэнне кутнік як зуб, то кутнімі зубамі не дужа-ткі й наагрызаешся). І выходзіць, што шчыры беларус жыве ў вымроенай Беларусі ці ў гістарычнай Беларусі, як некалі Уладзімір Караткевіч. Сёння беларускага ў беларуса няма, хіба адна цярплівасць беларуская моцная, што капронавая нітка, бо й лён выведзены, як нацыяналіст.

У самы росквіт чырвонай імперыі пачалі замяняць назвы вёсак, паселішчаў на расійскі лад. Бо тапаніміка самая кансерватыўная, а значыць — самая ўпартая й нязломная ашчаджальніца спрадвечча, гістарычнай памяці. І пайшлі па Беларусі розныя Сярэнеўкі, Лазурныя, Тургеневы. Яшчэ трохі патрывала б імперыя і рэкі й азёры атрымалі б савецка-расійскія найменні.

Паспяхова з перайменаваннем справіліся савецкія рупліўцы ў Прусіі. Тое-сёе паспелі на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі.

Пра помнікі Леніну й вуліцы ягонага імя й казаць няварта. Тут Беларусь на першым месцы. Гэта ж трэба, каб гэтулькі вуліц назваць імем душыцеля паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі Суворава, панастаўляць яму помнікаў, бюстаў. Вяртанне з хрысціянства ў паганства, да ідалапаклонніцтва, ці, як казалі беларусы ў сярэднявечча, да балвахвалства.

Сапраўды нацыянальныя героі ці аплёўваліся, ці каменна замоўчваліся. Партыя і ўрад рабілі героямі чэкіста Арлоўскага, які можа прэтэндаваць на занясенне ў Кнігу Гінеса як суперкілер, прыгожую легенду партапарату Машэрава, ці якога іншага чырвонага памешчыка. Яны героі, але не народа, а савецкай імперыі, героі «ума, чести и совести», па выразу Леніна. Гэта ж жонка падобнага героя Прытыцкага з сур'ёзным выглядам вучонай цвердзіла, што, бачце, Маладзечанская вобласць раней за астатнія прыйдзе да камунізму, бо лепей ад іншых авалодвае расійскай мовай. Камінтэрнавец, кэпэзэбэвец Прытыцкі быў першым сакратаром тады Маладзечанскай вобласці.

Савецкая ўлада, Камуністычная партыя, карныя органы павінны перад Беларуссю, і ў першую чаргу перад беларускай мовай прызнаць сябе віноўнікамі за фізічны й духоўны генацыд. Правапераемнікі павінны сплаціць доўг беларускай мове, беларускай культуры, духу беларускаму. А наяве мы бачым, як дадушваецца, дабіваецца ўсё беларускае — ад школы да кнігавыдання пад дымавой заслонай антыканстытуцыйных рэферэндумаў, пастаноў, указаў.

Рэферэндум наўмысна заблытана ставіў пытанні. За які герб, за новы ці за стары? Шмат хто палічыў старым бэзэсэраўскі, падпраўлены пад прычоску куміра, а новым Пагоню. Тое ж самае й з бел-чырвона-белым і камунамусульманістым. А наконт мовы дык наогул быў учынены гвалт. Пытанне было пра роўныя правы расійскай і беларускай мовы. Хоць усё нагадвала казку, дзе біты нябітага вязе. А пасля рэферэндуму ўсе СМІ ў адзін голас закукарэкалі, што беларускі народ адмовіўся ад сваёй мовы. І пачалася яшчэ болей інтэнсіўнейшая русіфікацыя. А тут яшчэ ўказ вучыцца па падручніках, створаных савецкай імперыяй, антынацыянальных, вялікадзяржаўніцкіх. Зноў, значыць, дзядуля Ленін і чаёўнік з хадакамі Калінін. Зноў «старший брат» і заклятыя нацыяналісты. Хоць вучыцца ніколі не позна, але калі за школьныя й інстытуцкія падручнікі садзяцца адміністранцы пад наглядам усенароднага любімца, толку мала будзе.

Мове нашай няма куды ўцякаць, няма дзе шукаць прыпірышча, апірышча, бо захавальнікі ўсіх традыцый, якія мелі яшчэ трывалыя карані паганства, сяляне, гаспадары сваёй зямлі знішчаны як клас. Мястэчкі ператвораны ў нешта неканкрэтна-аморфнае, карэннае насельніцтва выпалата рэпрэсіямі й вайной. Пра гарады й казаць не даводзіцца, гэтулькі яны даведзены саветызацыяй да люмпенізаваных крымінагенных зонаў. Чынавенства — у аснове сваёй залётнікі з Расіі, нялепшыя ейныя прадстаўнікі. Яны трапілі да нас па лермантаўскай формуле — на лоўлю шчасця ды чыноў. А сваёй гадоўлі чыноўнікі раўняюцца на іх.

Праз вякі беларуская нацыя, як у дысідэнты, йшла ў фальклор. Казкі, песні, легенды, прыказкі й показкі — у іх жыве беларускі характар, з іх можна казаць пра беларускі менталітэт.

Вольнаму воля, шалёнаму поле, а спасёнаму рай. Так беларусы вызначаюць абсягі чалавечага духу, розуму, руху.

Значыцца, каб мець волю, трэба быць вольным. Гэта не таўталогія. Каб быць свабодным, трэба мець сілу волі, волю да перамогі, але захаваўшы душу ў цноце. Бо недалёка іншае выслоўе: дай душы волю — завядзе ў няволю. Браканьерамі, што спецыялізуюцца, як і спецыялізаваліся ўсе вякі, антыбеларускія, чужадзяржаўныя спецслужбы й ідэолагі палююць на беларускія душы, каб завесці іх у няволю.

Шалёнаму ў наш час неабмежаванае поле дзейнасці. Невыпадкова паўнагучна рыфмуюцца шалёны й чырвоны.

Толькі адзін Усявышні, толькі ўселітасцівы Збаўца спасе беларускую душу, уратуе беларускую нацыю, зберажэ Крывіцкую Зямлю. За нашыя дзеі, за грахі нашыя раю, вядома, нам не ўбачыць, як і некалі абяцанага камунізму, бадай што хоць прыраек.

Калі самі мы нямоглыя й падупалыя духам, калі не маем пакуль што вярнуцца ў Беларушчыну, дык паўторым следам за прарокам нацыянальнага Адраджэння Янкам Купалам:

Вярні, вярні нам Бацькаўшчыну, Божа...

Ніцачолава й цвёрдаверна, набожна малітоўна паўторым!

# КАРМА ПАД КАРМОЙ

Багатая на скарбы наша зямля. Тут што ні вёска, то сваё паданне пра схаваныя пад зямлёй таямніцы. Толькі не кожнаму дадзена дакрануцца да гэтых таямніц. Скарб нібы сам выбірае вартага яго адкрывальніка.

Пятру Васільевічу Бандарэнку — лесніку з в.Ліцвінавічы Кармянскага раёна Гомельскай вобласці — пашчасціла. Падчас рыбалкі на рэчцы Сож у размыве стромкага берага ён знайшоў... старажытны човен. Човен быў выдзеўбаны цёсламі з вялізнай старой хваіны і меў даволі архаічную форму. На жаль, захавалася толькі частка бартоў і карма чаўна. Але, апынуўшыся на сонцы і адкрытым паветры, старажытнае дрэва стала хутка псавацца. Трэба было тэрмінова ратаваць унікальную знаходку.

Арганізацыю гэтай справы ўзяў на сябе Фонд развіцця традыцыйнай этнічнай культуры, які аператыўна звярнуўся да таварыстваў і фірм, якія клапоцяцца аб нацыянальнай спадчыне — «Джэ-Ві-Сэт», «Дайнова», «Рэсвідэа», «Фіко» — з просьбай дапамагчы ў арганізацыі папярэдняга даследавання, транспарціроўцы, захаванні унікальнага чаўна. Неўзабаве экспедыцыя на чале з археолагам, навуковым супрацоўнікам аддзела археалогіі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Міколам Крывальцэвічам даставіла човен у Музей старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук Беларусі.

Да завяршэння даследаванняў цяжка сказаць з пэўнасцю, колькі гадоў гэтая рэч праляжала ў зямлі. Паводле сваёй формы човен можа быць датаваны нават дагістарычным часам. Тым больш, што знаходка была зроблена зусім недалёка ад вядомых археолагам мясцін — паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў, якія датуюцца V—II тысячагоддзямі да нашай эры.

Але пачакаем высноў экспертаў.

**Інфармацыйная служба «ISK»**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## УВЕСЬ БАГДАНОВІЧ

**Выдавецтва «Навука і тэхніка» завяршыла выпуск Збору твораў Максіма Багдановіча ў трох тамах — толькі што выйшаў з друку апошні, трэці том. Паколькі далёка не ўсе аматары творчасці класіка нацыянальнай літаратуры падпісаліся на гэтае выданне, то, сталася так, што ў некаторых з іх адсутнічаюць асобныя тамы. Кіёск Літаратурнага музея М.Багдановіча — адзінае месца, дзе яшчэ можна набыць гэтыя тамы ўсе разам. Жадаючых просім звяртацца на адрас: г.Мінск, М.Багдановіча, 7-а, тэл. 34-42-69.**

***Валянціна БЯЛЯЎСКАЯ, загадчыца аддзела фондаў музея***

## НЕВЯДОМЫЯ ДАКУМЕНТЫ ПРА ГАРЭЦКАГА

**Ўдалося адшукаць супрацоўніку Упраўлення Федэральнай службы бяспекі Расійскай Федэрацыі па Смаленскай вобласці М.Ількевічу, калі ён працаваў над пытаннямі рэпрэсій у трыццатыя гады. Ён устанавіў, што толькі 5 студзеня 1938 г. адбылося чатыры пасяджэнні «тройкі». Ёсць у архіве і матэрыялы, што тычацца лёсу М.Гарэцкага. Яны і прыводзяцца М.Ількевічам у матэрыяле, што так і называецца «Невядомыя дакументы аб Максіме Гарэцкім», змешчаным у трэцім нумары «Беларускага гістарычнага часопіса».**

**У нумары і шэраг іншых матэрыялаў, што закранаюць асобныя моманты багатай нацыянальнай гісторыі. У кастрычніку, як вядома, будзе адзначацца 50-годдзе ўтварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Пра дзейнасць яе разважае ў артыкуле «Шлях і перспектывы ААН» А.Чалядзінскі. Я.Анішчанка выступае з артыкулам «Арганізацыя кагалаў на Беларусі падчас першага падзелу Рэчы Паспалітай».**

**«Ягелонская ідэя ў Польскай Рэспубліцы пасля Рыжскага міру» — тэма выступлення Р.Лазько. Галоўны рэдактар «БГЧ» В.Кушнер гутарыць з рэктарам Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Р.Карсекам — «Эканамічная адукацыя: пошукі новых арыенціраў».**

**Апублікаваны артыкулы С.Таляронка «Тайнае вучнёўскае таварыства «Заране» (20-ыя гг. XIX ст.)», Р.Платонава «Трагічны фінал беларускіх эсэраў», М.Шумейкі «Праблемы архіваграфіі і археаграфіі на Беларусі», Д.Карава «Беларуская гістарыяграфія XX ст. — адна з крыніц фарміравання менталітэту нацыі», З.Дысенкі «Тэатр ва ўмовах пераходнага перыяду», нарыс І.Саверчанкі «Сільвестр Косаў» і іншыя матэрыялы.**

## ЯКІ ЁН, «ПЕРШЫ КРОК»?

**«Першы крок» — так называецца праграма выхавання дзяцей, што ўжо на працягу трыццаці гадоў выкарыстоўваецца ў ЗША, а цяпер адаптуецца ў 18 краінах свету. Для Беларусі яна прапанавана грамадскай арганізацыяй «Фонд Сораса—Беларусь». З гэтай праграмай мае намер пазнаёміць часопіс «Пралеска». А пакуль у восьмым нумары змешчана гутарка з экспертам з ЗША па ўдасканаленні педагагічнага працэсу ў Беларусі па праграме «Першы крок» Стэфанам Сайфергам — «Зерне трапіла на спрыяльную глебу».**

**Адкрываецца ж нумар развагамі галоўнага рэдактара А.Сачанкі «Гадзіна пік». А.Марціновіч («Яе боль і алтар») аналізуе творчасць Л.Геніюш для дзяцей, змешчана некалькі твораў паэтэсы. Увазе чытача прапануюцца заканчэнне праграмы выхавання і навучання ў яслях-садзе «Пралеска», сцэнарый свята дажынак, падрыхтаваны В.Кукса («Маці, маці, пара жыта жаці»), іншыя матэрыялы.**

## «ВОСТРАЎ ДУШЫ» СЯРОД... ЛЮДЗЕЙ

**Прэзентацыя новай кнігі паэзіі Навума Гальпяровіча «Востраў душы» адбылася на радзіме аўтара — у старажытным Полацку, у музеі беларускага кнігадрукавання. Гэтая падзея супала з Днём беларускага пісьменства і друку. Паэта віталі Сяргей Панізнік, Іван Стадольнік, Герман Кірылаў, старшыня гарвыканкама К.Хоміч, старшыня гарсавета В.Ждановіч. І, вядома ж, на сустрэчы прагучалі творы з новай кнігі.**

# «ЛЮБІЦЕ ПАЭТАЎ, ЛЮБІЦЕ...»

*Усё адкладвалася гэтая работа — сесці і запісаць эпізоды з жыцця, якія звязаны з Рыгорам Семашкевічам. Яны ўсплывалі і ўсплываюць у памяці нечакана, блізкія, быццам было тое ўчора. Гэта, мо́жа, і таму, што там самая шчаслівая пара — студэнцкая маладосць і маладосць наогул з бясконцай верай у жыццё і ўпэўненасцю, калі не самаўпэўненасцю, што табе ўсё падуладна і магчыма. Сесці і запісаць перажытае на паперы было быццам здрадаю перад Рыгорам — адмежаванне ад яго аркушам паперы, пісьмовае прызнанне — па словах любімага Рыгорам Твардоўскага, — што адзін з нас ужо «за той чертой». Але жыццё патрабуе свайго, і мяне папрасілі напісаць да 50-годдзя з дня нараджэння Рыгора Семашкевіча. Гэтак у нас заведзена. Думаецца часам, што каб не пакланенне датам, мы пазабывалі б многіх, хто стаіць за намі і каго забываць нельга. Хаця забываем, нягледзячы і на памятныя даты...*



Як і калі ўпершыню сустрэўся з Рыгорам Семашкевічам — не памятаю. У памяці чамусьці выплывае з туману адвячорак і наш вясёлы студэнцкі гурт — мы ішлі з пасяджэння Лойкавага «Узлёту» гаманкія і ўзбуджаныя. Туды мяне ўпершыню прывёў Юрка Голуб, і там разбіраў вершы кагосьці з пачаткоўцаў худзенькі, у акулярах, гэткі ж як і мы з выгляду хлопчык. Не верылася, што ён аспірант і што паэт, але па тым, як ён разбіраў вершы і як яго слухалі, дастаткова было пераканацца, што гэта так. На пасяджэнні было не да «празаікаў», даволі нямногіх у тым паэтычным гурце, і часу мне назіраць за ўсімі ставала.

Потым мы сустракаліся з Рыгорам часта ў яго пакоі ў інтэрнаце на Свярдлова,дзе ён жыў з Яўгенам Лецкам. Там чытаў новыя вершы Юрка Голуб, і Рыгор слухаў яго, вострa пазіраючы праз шкельцы акуляраў і цыгарэтны дымок. Але такое чытанне ўслых здаралася рэдка, вершы чыталіся па паперы і тут ужо ішла прыдзірка і разборка ледзь не кожнага радка і слова... Услых найбольш чыталася новае ўпадабанае ў беларускіх часопісах і газетах, у рускім друку. Мы надзіва шмат чыталі сваёй перыёдыкі, бо гэтак званыя «літаратурныя старонкі» былі абавязковыя ва ўсіх газетах, за гэта з рэдактараў пыталі строга «на версе»... І рускія тоўстыя часопісы і паэтычныя зборнікі тады былі даступныя, бо кніжны бум яшчэ не пачынаўся.

З тых чытак і сустрэч да мяне прыйшла амаль невядомая да таго часу Анна Ахматава. Рыгор быў улюбёны ў яе паэзію і як навуковец скрупулёзна збіраў усё, што з'яўлялася ў друку і датычыла Ахматавай. Гэтакая «навукоўская» ўлюбёнасць нам з Юркам давала падставы для кпінаў, якія Рыгор зносіў паблажліва — падрасцеце, зразумееце — і быў рады кожнай новай знаходцы, якую мы аддавалі яму. Сёння, дзякуючы Ахматавай, я магу пачуць Рыгораў голас. У яго была пласцінка моднага ў той час Булата Акуджавы, і я прыехаў на кватэру да Семашкевіча, каб перапісаць песні на магнітафонную стужку... Праз многа гадоў пасля смерці Рыгора выпадкова паставіў тую касету ў магнітафон і між песень нечакана пачуў яго голас: «Урыўкі з трагедыі Ахматавай «Пралог альбо Сон у сне»:

**Никого нет в мире бесприютней**
**И бездомнее, наверно, нет.**
**Для меня ты словно голос лютни**
**Сквозь загробный призрачный рассвет.**
**Я рукой своей тебя не трону,**
**Не взглянув ни разу, разлюблю,**
**Но твоим невероятным стоном**
**Жажду наконец я утолю.**
**Ту, что до меня блуждала в мире,**
**Льда суровей, огненнее дня,**
**Ту, что и сейчас стоит в эфире, —**
**От нее освободи меня.**

Голас яго і сёння ўражвае мяне страснасцю, ненатоленасцю жыццём.

Калі творчасць Ахматавай, цікавасць да яе асобы былі, як цяпер гавораць, нядай і патрэбай душы, але ўсё ж хобі, то галоўнай страсцю ў жыцці Рыгора Семашкевіча заставалася наваt і не паэзія, а даследчыцкая дзейнасць. Ён ішоў па нераспрацаваных напрамках як даследчык не толькі літаратуры, а беларускага руху, выспявання нацыянальнай ідэі, бо сам быў працяты ёй. Даследаванні «Браніслаў Эпімах-Шыпіла», «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе», на маю думку сёння, былі грунтоўнымі подступамі да тэмы Янкі Купалы як прарока беларускага адраджэння, як паэта сусветнай велічыні, трагедыя якога ў тым, што ён не толькі не данесены свету, але і недаступны для свайго народа. Купала быў для Рыгора Семашкевіча асаблівай, запаветнай любоўю, пра яго калі і згадвалася, то як пра Бога.

Пры ўсім гэтым Рыгор Семашкевіч — самабытны арыгінальны паэт, які добра засвоіў грамадзянскі і мастацкі вопыт Багушэвіча і Купалы, Твардоўскага і Ахматавай... Невыпадкова ім мала напісана паэзіі: два зборнікі — «Леснічоўка» і «Субота». Не скажаш, што яны аб'ёмныя. Паэтычная ўдумлівасць і нешматслоўнасць абумоўліваліся адчуваннем адказнасці за сказанае слова, разуменнем значнасці таго, пра што трэба гаварыць:

**На ўсю Беларусь мільён пракурораў**
**І толькі адзін, толькі ён адвакат.**

Гэта пра Ф.Багушэвіча. Паспрабуйце вось так, як гаворыцца, грунтоўна і папулярна «распрацаваць тэму Багушэвіча». І манаграфіі на дзесяткі старонак не хопіць. Альбо вось гэтыя верш, які, на маю думку, заслугоўвае таго, каб дзеці з пачатковых класаў запомнілі яго са старонак школьных хрэстаматый і ведалі, як малітву, каб мець свой гонар і памятаць, хто яны ў свеце і адкуль.

**Вайсковыя могілкі Мінска**
**Не будуць варот зачыняць.**
**Спыніся — далёкі ці блізкі, —**
**Тут маршалы нацыі спяць.**

# «СУМАВАЛІ ВЕРШЫ ПА КНІЗЕ»

...І вось, дзякуй богу, дачакаліся. І аказалася, што чакалі недарэмна. З першага, як кажуць, прад'яўлення хораша бачна: паэт. Не таму, што піша «ў рыфму» (каго цяпер гэтым здзівіш), а таму, што паэтычна бачыць свет, паэтычна мысліць і паэтычна афармляе свае думкі. Урэшце, падчас ніякіх думак быццам бы і няма, ёсць проста імгненная замалёўка, імгненны маментальны здымак, скажам, прыроднай рэчаіснасці, але такі здымак, на які не здольны ніякі фотаапарат. Як, напрыклад, у «Акварэлі»:

**Руды сітнік. Сіні глей.**
**Сонца, нібы язь паджары,**
**Зелень раскі. Бель лілей.**
**Бляклa-шэры колер хмары.**
**Восень, нібы лагапед,**
**вымаўленню вучыць ветра...**
**Топчуць лісцяў жоўты плед**
**качкі у чырвоных гетрах.**

Восень, залатая пара лістападу, і ў ветра сапраўды нейкая іншая мова, яшчэ па-летняму вясёлая, але ўжо і журботная, дакладнае вызначэнне ранішняй восені. Не кажу пра шчодрыя фарбы — іх можна без страты перанесці на паперу і заключыць у рамачку...

«Вячэрні эцюд» — іншы вобраз свету, іншая яго грань:

**Мёрзкае, халоднае акно.**
**Церпкае гарачае віно.**
**Келіх у руках гарыць,**
**падобна неонавай трубцы.**
**Кельнер-пінгвін**
**з разлікам марудзіць —**
**красуецца.**
**У шаліках, як самагубцы,**
**спяшаюцца людзі па вуліцы.**

Выдатныя зрокавыя вобразы, дакладнае псіхалагічнае назіранне за дзеяннямі «кельнера-пінгвіна», крыху іроніі — і раптам сутыкненне з чымсьці супрацьлеглым, са злавесным, з тым, што выклікае ў свядомасці слова «самагубства». Мабыць, яно і змрачнаватае для дадзенага тэксту, але я, чытач, бачу тое, што бачу, і думаю тое, што думаю: так. гэта н а ш ч а с — «церпкае гарачае віно» і жабрак у пераходзе метро, келіх у руцэ і старэнькая пенсіянерка, якая корпаецца ў сметніцы. Мабыць, нічога падобнага паэт і не меў на ўвазе, ён толькі дае невялічкі зрэз жыцця, ягоную, так сказаць, малекулу, але ў ёй можна ўбачыць усе адзнакі сучаснасці, з якіх галоўны — расслаенне грамадства на тых, хто п'е церпкае віно, і тых, каго абставіны даводзяць да адчаю. Паэт з бляскам выканаў свой абавязак — даў дакладную карціну таго, што сам убачыў, — і прымусіў чытача думаць аб жыцці. Як ён, чытач, здольны...

У першай палове кнігі такія вершы ідуць, як кажуць, касяком, практычна кожны можна цытаваць у пацвярджэнне таго, што перад намі таленавіты паэт, — калі каму-небудзь двух цытаваных недастаткова. Разам з тым узнікае і нарастае іншы бок пісьма, іншая якасць, паэтам ставіцца і іншая задача.

«Ронда», «Актава», «Трыялет», «Тэрцыны», «Тугі» (нават не ведаю, што гэта такое), «Віланэль», «Рытурнэль», «Элегія», «Канцона». Тут у саміх назвах — зададзенасць формы. Шчыра кажучы, асабіста я заўсёды ставіўся да такіх формаў з некаторым недаверам, каб не сказаць болей. Мне ўсё здаецца, што яны — штучныя. Выкліканыя да жыцця асобнымі ўмовамі, памерлі разам з імі. Што яны — нешта накшталт вышывання па канве. Усведамляю, што, магчыма, гэта толькі маё рэтраградства, што любую форму можна напоўніць вялікім і сур'ёзным зместам. Але чалавек слабы, ён не можа пазбавіцца ад забабонаў, і таму няма ахвоты цытаваць пералічаныя вершы, складаная строфіка і рыфмоўка ў якіх перашкаджаюць успрымаць іх сэнс і змест.

Далей высвятляецца, што першую кнігу Э.Акуліна ўвогуле можна лічыць в у ч н ё ў с к а й. Не, не ў тым сэнсе, быццам бы яна перамальная і г.д. Лепш сказаць, гэтая кніга — эксперыментальная, кніга пошукаў новай формы вершаскладання. Здзіўляцца не даводзіцца: цяжкія, пакутлівыя пошукі новых форм жыцця не могуць не суправаджацца пошукамі новых форм яго адлюстравання, чым і займаецца зараз усё мастацтва («душа паўтарае цела», кажа пісьменніца Алёна Тарасава). Аднак у адрозненне ад іншых паэтаў Э.Акулін, як бачым, ідзе не толькі наперад (вольны, «белы» верш і г.д.), але і назад, у мінулае.

Спектр пошукаў вельмі шырокі. Э.Акулін спрабуе, напрыклад, рашаць адну і тую ж тэму рознымі сродкамі. Скажам, яму не падабаецца асфальт (у чым я згодны з ім: з я м л ю м а ц і закрывае!), і ён піша «Аднойчы»:

**Аднойчы ўвесну, нібы лёд,**
**ад плёсаў-плошчаў непрытульных**
**асфальт пачне свой крыгаход**
**між берагоў прыціхлых вуліц.**
**І людзі выйдуць паглядзець**
**на небывалае здарэнне,**
**І стануць душамі святлець,**
**і прагнуць самаачышчэння.**
**І разняволены праспект**
**ва ўсёй сваёй красе шырокай**
**блакіт пралесак панясе,**
**адлюстраваны ў сотнях вокан.**

Мы разумеем: мара. Згаджаемся з ёю, але разумеем і тое, што ніякай «красы шырокага праспекта» ўжо не будзе, будзе толькі гразь. Тут — дапушчальная ўмоўнасць. А праз тры старонкі — «Асфальтавыя рэкі»: «...куды вас плынь нясе? На гібель чалавеку (!) на стрэчнай паласе... Пад вечар вашы плёсы пусцеюць пакрысе. Сталёвыя таросы зіхцяць у расе. Асфальтавыя рэкі — дарогі ў нікуды... На што вы чалавеку без чаек і вады?» Тут парушана гармонія паміж эмоцыяй і розумам, чаго не было ў першым выпадку, усур'ёз адмаўляецца

*Эдуард АКУЛІН. Крыло анёла. Вершы, акрапаэмы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1995.*

# БУДУЦЬ ПРЭМІІ ІМЯ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

**Зыходзячы з прынцыпаў Міжнароднага ПЭН-цэнтра, Другі Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры «Незалежная прэса: свабода і адказнасць», які, як мы паведамлялі ўжо, праходзіў нядаўна ў Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач», падтрымаў прапанову Беларускага ПЭН-цэнтра і пастанавіў заснаваць пры Беларускім ПЭН-цэнтры Фонд Францішка Багушэвіча. Сродкі фонду будуць выкарыстоўвацца для прысуджэння дзвюх штогадовых літаратурных прэмій імя Францішка Багушэвіча і пакрыцця выдаткаў, звязаных з ганараваннем лаўрэатаў.**

**Распрацавана палажэнне аб гэтых узнагародах. Літаратурныя прэміі імя Францішка Багушэвіча будуць прысуджацца беларускім пісьменнікам за творы, якія служаць аднаўленню гістарычнай памяці беларускага народа і спрыяюць адраджэнню Беларусі. Кожная з прэмій мае памер 500 долараў ЗША. Разам з прэміяй будзе ўручацца лаўрэатам дыплом і медаль.**

**Прэтэндэнты на прэмію павінны накіроўваць свае творы (без жанравых абмежаванняў на разгляд да 1 лютага. Рашэнне прымае рада фонду, якая аб сваім рашэнні паведамляе штогод 3 сакавіка — у дзень нараджэння Ф.Багушэвіча.**

# З КЛОПАТАМ АБ ЮНЫХ ТАЛЕНТАХ

**Беларуская эстэтычная асацыяцыя разам з іншымі арганізацыямі, сярод якіх ЮНЕСКА, Міністэрства адукацыі Расіі і Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі, творчыя саюзы, выступіла з ініцыятывай стварэння Міжнароднай дзіцячай Акадэміі, якая звяжа Мінск, Маскву, Кіеў. Яе мэта — выяўленне і падтрымка таленавітых дзяцей і падлеткаў з правінцыі, перш за ўсё ў славянскіх краінах. На творчых семінарах з юнымі будуць займацца відныя дзеячы літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва і тэатра. Для падтрымкі і развіцця Дзіцячай акадэміі створаны Міжнародны апякунскі савет, у склад якога ўвайшлі такія знакамітыя творцы, як Мікіта Міхалкоў, Алег Табакоў, Ілля Глазуноў, Вольга Лепяшынская, Генадзь Гладкоў, Валянцін Лукша, Уладзімір Стальмашонак, Ігар Алоўнікаў і іншыя.**

**У.МУРОГ**

# ЯК КАЖУЦЬ: МАЛАДЫ ДЫ РАННІ

**І на самай справе Ягор Конеў належыць да самай маладой генерацыі беларускіх пісьменнікаў. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску, вучыўся ў Мінскім інстытуце культуры, у 1994 годзе скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у газеце «Чырвоная змена», у рэдакцыях часопісаў «Беларуская думка», «Беларусь», цяпер — у «Бярозцы».**

**Нягледзячы на малады ўзрост, Я.Конеў зарэкамендаваў сябе і як удумлівы журналіст, і як цікавы празаік. Пацвярджэнне апошняму— першы зборнік прозы Я.Конева «Вартавыя», што стаў жніўеньскай за сёлетні год кніжкай у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць». Акрамя аднайменнай аповесці, у яго ўвайшлі апавяданні «Лесуны», «Нашчадак», «Нявестка».**

**Той, хто ўжо знаёмы з творчасцю маладога пісьменніка, не мог не заўважыць, што героі яго твораў (урэшце, як і персанажы многіх іншых маладых аўтараў) дзейнічаюць на мяжы рэальнага і казачнага, фантастычнага. Разам з тым Я.Конеў не адыходзіць ад складаных праблем жыцця, раскрываючы іх па-свойму, арыгінальна.**

**Вось што гаворыць наконт гэтага ў прадмове «Абяцанне» Віктар Казько: «Ягор Конеў імкнецца адрадзіць былое. Адрадзіць, сыходзячы ўжо з нашых дзён, з творчасці Міхаіла Булгакава і Анатоля Кіма. Гучныя імёны. Але я не параўноўваю і не праводжу паралеляў. Я адзначаю іх толькі, разумеючы, што гэтая першая кніжка маладога аўтара, першая спроба аповесці. І пра дасканаласць яе гаварыць яшчэ рана. Але нельга не заўважыць, што яна прыцягвае мяне і хвалюе. Я думаю над ёй, бо адчуваю і думку аўтара. І нашы думкі сугучныя».**

Паэзія

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



# З НОВАЙ КНІГІ

## З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

**Майму мястэчку шэсць стагоддзяў.
Майму Міру аж шэсць вякоў.
Падкову кожны тут знаходзіць
Сваю... між шасцісот падкоў.
Мой родны кут не адкапыціў,
Хоць на машыны перасеў,
Хаця сляды арліных кіпцяў
Дагэтуль у сабе нясе...
Будзь благаслаўлёны крыжам божым
І надалей, мой любы кут!
Не быў, не ёсць, не стане бомжам
Мой слынны працавіты люд.
Цяпер так многа сварак грозных
І рэфарматарскіх дурнот,
Але спакойны сталы розум
Спрадвечна мае мой народ.
Я не пра вас, хто ўжо адрокся
Ад мовы, ад свайго імя,
Айчыну хто любіць знямогся
І ганьбы праглынуў камяк.
Крывёю землякоў палітай,
Зямлі аб шчасці сняцца сны...
Бязродны можа быць палітык,
Ды не сапраўдныя сыны!
Мы ўсе адной нябеснай рамкай
Аздоблены ад першых дзён
З мястэчкам родным, домам, замкам,
І кожны з імі лепш відзён...**

## ПРЫМЕРКА

**Беларусь,
ты сягоння не ўзрост
Прымяраеш да годнай Расіі,
А сябе, як заечы хвост,
Хоць аб гэтым цябе не прасілі.**

**Нам бы стаць плячом да пляча,
Бо адной і крыві мы і долі,
Але рабства ў тваіх трапачах
Яшчэ болей,
чым прагі да волі.**

**Гэта ганьбіць славянскі дух
І Расіі і Беларусі.
І ніякі народны рух —
Не народны,
бо сам сабе хлусіць.**

## НЯЎРОД

**Прывучаныя быць спрадвек натоўпам,
Нялёгка мы вяртаемся ў народ...
За гэта ў твар нам тыцкаюць Еўропай,
Як быццам бы не ў ёй наш агарод.**

**Гаротную нам прапісалі долю —
Што ўсе мы бульбашы ды кавалі,
Хаця у нашага Скарыны школе
Вучыліся калісьці каралі.**

**Лягчэй за ўсё аблаяць пустазвонаў
І фактамі падрэзаць языкі...
Ды факт, што беларускую карону
Прымерваюць не тыя мужыкі...**

**Наш родны край і песняроў калыска,
І хлебаробаў! Каб жа ўладары
Не толькі лысінай маглі ў нас бліскаць,
Успомніў свет бы — мы гаспадары!**

**Няхай жа брыгадзіры брыгадзіраць,
Пастух кароў пасе, а не народ.
У рамянях пабольшала зноў дзірак...
Страшней за ўсё як розуму няўрод.**

●

**Выбралі найлепшага
з найгоршых
І ад шчасця слёзы пралілі...
Гэтая гульня прыйшла не з Польшчы.
Гэты падкідны з маёй зямлі.**

**Так і забаўляецца славянства,
Каб не пастарэць,
не падурнець.
Не кажыце, панства,
нам пра хамства,
Вам раскошы гэткае не мець...**

## РАЗБОРКІ

**Літвіны мы ці расіяне —
Распачалася нанаў спрэчка.
Праз тры дзяржавы цячэ рэчка,
Ніхто не знае, з чыйго рання.**

**Ніводзін не напяты мускул,
Ракі прасвечваецца донца,
Каго хвалюе, колькі сонца
У ёй з адценнем беларускім.**

**Не разабрацца ў дыяменце
Хваль у траве і між алешын,
Хто з нас малодшы, хто старэйшы —
Магчыма, добра, што ў сакрэце.**

## ОДА ЖАБРАКУ

**Жабрак да жабрака не пойдзе з торбай,
Хіба каб крочыць разам жабраваць
І выглядаць бядой не аднагорбай:
Дваім, чым аднаму, лягчэй падаць.**

**Дваім — лічы, што цэламу народу,
Які разбрыўся па зямных кутках
І з торбамі ўпісаўся у прыроду
І дэмакратыі, і вольных птах.**

**Маланка жабрака ўслед перахрысціць,
А нехта і сабаку нацкуе,
А хтосьці і падасць...
Жабрак-нячысцік
Жалезна знае ўсе правы свае.**

**Я быў багаты — верыў у свабоду.
Яна ж, як і прыгнёт, не знае меж...
О брат-жабрак,
вазьмі хоць гэту оду,
Сабе пад голаў нанач падкладзеш.**

## ЗАСТАЛАСЯ НЕБАМ

**Прылашчыцца ў жанчыны ёсць патрэба
Да рук нячулых, да калючых шчок.
Не зашчапляйся, братка, на кручок
Ад гэтага жывога неба.**

**Хіба ты не ўглядаешся ў яго
І позна ўвечары і рана-рана,
Калі душу зацягваюць туманы
І хочацца на свеце аднаго:
У зроку сэрца мець заўжды яе
І з крокамі, і з валасамі,
І з голасам над галасамі.
Тады ліпучае ўсё адстае.**

**Хіба не вусны астудзілі лоб,
Апалены раўнівасці ганебай?
Ужо было на свеце многа спроб
Зрабіць пад годнасць небную падкоп,
Жанчына ж —
засталася тым жа небам.**

## У ВЕЧНАСЦІ СПРАДВЕЧНЫМ СТАЦЬ

**Жыццё у смерці адваёўваць
Цаной уласнага жыцця,
Аддаць душэўную маёмасць
За мару, чым жыве дзіця.**

**О калі б гэткую ахвярнасць
Мог кожны з нас дэманстраваць,
Людскі замах не быў бы марным —
У вечнасці
спрадвечным стаць.**

## ГАРТАЮЧЫ СОННІК

**1.**

**У чалавецтва толькі дні.
А ночы — гэта час для мёртвых.
І кожны беларус чацвёрты
З вайны пры Месячным агні...**

**2.**

**Часамі хмаркаю зашторыць
Хтось векавечнае акно,
Як некалі ў сваёй канторы
Ад сонца... Як было даўно...**

**3.**

**Дзень добры ў хату, мама з татам!
Упоўнач я прыйшоў да вас.
Вы — для мяне, для вас — я страта.
Не лепшы і не горшы час.
Ага... Сівей за вас я, мама.
Памерлі Галя і Аркадзь.
Памром... Памром усе таксама,
Не вечныя, што і казаць.
Вы, мамачка, і тут ля печы,
І робіце усё сама.
Дзе ж Галя і Аркадзь, дарэчы?
— Ды там, сынок, дзе нас няма...**

АПОЎДНІ мэру Лабідудава Пузановічу пазванілі з канцылярыі аблвыканкама і паведамілі, што адпаведна з вертыкаллю ўлады, вырашана прызначыць яго, Уладзіслава Пузановіча, Старшынёй Зямнога Шара. Супрацоўнік канцылярыі спытаў Пузановіча, колькі дзён яму трэба на роздум, каб прыняць важнае рашэнне, але мэр адказаў, што тэрмін на роздум яму не трэба, і ён дае згоду на адказную пасаду адразу. Пасля гэтага супрацоўнік канцылярыі спытаў ці ёсць у таварыша Пузановіча якія пажаданні, і той хуценька паведаміў, што ёсць, і на пытанне якія? — патлумачыў, што пакуль жаданне адно: арыштаваць жыхарку Парыжа мадам Гурон і выслаць яе куды-небудзь на цаліну ці якую выспу падалей.

Пасля яго слоў у слухаўцы ўзнікла паўза, а потым голас супрацоўніка канцылярыі папрасіў даць больш падрабязныя тлумачэнні: за якое злачынства арыштаваць і выслаць на астравы?

Старшыня гарвыканкама раскрыў рот, каб шчыра расказаць пра ўсё і... прачнуўся. Так, як яго мазгі ўключаліся ў рэчаіснасць вельмі павольна, то Пузановіч са здавальненнем падумаў пра тое, што ён, як Старшыня ўсёй Зямлі можа і сам даць рады нейкай там французскай мадам, і ўздыхнуў з палёгкай.

Пасля гэтага Пузановіч яшчэ паляжаў крыху ў ложку, зірнуў у акно, за якім беглі шэрыя хмары і... раптам дапяў, што проста спаў, што ніхто яго па вертыкалі не прызначаў, што трэба ўставаць і ісці на працу.

Яшчэ больш было непрыемна Пузановічу развітацца з думкай, што мадам Гурон, якую ён амаль абясшкодзіў, павінна праз тыдзень нанесці візіт у падначалены яму горад.

Справа заключалася ў тым, што сын мадам Гурон, Жан-Луі, у вайну быў лётчыкам палка «Бургундыя-Днепр». У гонар палка назвалі і адну з вуліц горада. І вось маці героя, мадам Гурон, праз пасольства выказала жаданне наведаць горад і, у прыватнасці, вуліцу, перайменаваную ў гонар яе сына і яго баявых сяброў.

Днямі са сталіцы ў Лабідудава перадалі тэлефанаграму, у якой ад Пузановіча патрабавалі ўпарадкаваць вуліцу і прыняць усе меры, каб не дыскрэдытаваць дзяржаву, ды адпаведна садзейнічаць візіту мадам з Парыжа.

Цяпер, уявіўшы будучыя клопаты, мэр ажно ўзмакрэў. Некалькі гадоў таму, калі ён яшчэ не быў мэрам, мадам таксама збіралася прыехаць, але не здолела. Вуліцу тады тэрмінова пашырылі (знеслі шмат прыватных дамоў), хацелі пусціць па ёй нават тралейбус, але на тым усё спынілася.

Напярэдадні Пузановіч з мэтай агляду зрабіў на вуліцы шпацыр і жахнуўся. Пасярод яе ўзвышаліся горы смецця, утварыўся яр. У бруднай лужы рохкаў вялізны кормнік, якога даглядаў хлопчык. Даглядаў не дарэмна, бо ў самым канцы вуліцы з'явіліся палаткі і шатры, якія паставілі цыганы. Гэта былі самасёлы аднекуль з Расіі. Каля тых шатроў, размешчаных на курганах са смецця, мэра, якога суправаджаў толькі шафёр, адразу атачылі мурзатыя цыганскія дзеці і... запатрабавалі грошай. Не паспеў мэр гнеўна раскрыць рот, як нейчыя брудныя, гнуткія рукі мякка запаўзлі яму ў кішэні, другія ўжо адшпільвалі з запясця гадзіннік... Мэра нібы ўджаліла, ён клікнуў шафёра і мусіў адступіць да машыны. Шафёр гучна мацюкаўся, бо ў машыне не знайшоў капелюша, а сам Пузановіч, калі пад'ехалі да выканкама, выявіў прапажу парасона. Толькі тады Пузановіч успомніў, што з месяц таму да яго на прыём імкнуліся жыхары з той самай вуліцы, якія патрабавалі забараніць цыганам самавольна будавацца, але ён тую дэлегацыю не прыняў.

Цяпер трэба было нешта рабіць. Пузановіч пакінуў ложак і патэлефанаваў начальніку гаркамгаса, загадаўшы праз гадзіну быць у яго ў прыёмнай. А пакуль усё, мэр прымусіў сябе засяродзіцца на больш прыемных думках. Гэтыя прыемныя думкі былі пра гуманітарную дапамогу з Нямеччыны. Пузановіч, як толькі тую дапамогу ахвяравалі, адразу ўзяў яе размеркаванне ў свае рукі — у такіх справах ён не цярпеў аніякіх памочнікаў. Трыста камплектаў пакетаў, з якімі мэр яшчэ дасканала не паспеў азнаёміцца, знаходзіліся ў гарвыканкамаўскіх гаражах і размяркоўваліся. Самы вялікі пакет, а яго мэр распячатваў адразу, змяшчаў вялізны дыван з малюнкам у кветкі. Дыван мэр пакінуў сабе, а на сваю сям'ю, сваякоў і іншых добрых знаёмых дадаткова адклаў і каля ста іншых пакетаў.

Пузановіч не спяшаючыся паснедаў і паехаў на працу. У прыёмнай ужо сядзеў, чакаючы яго, даўгалыгі, з чорнымі ўхілістымі вочкамі, начальнік гаркамгаса Стукачоў, а побач і яго намеснік Хаміцкі — невысокі чалавек з дробным, злосным тварыкам. Пузановіч запрасіў у кабінет абодвух і адразу спытаў:

— Чаму вуліцу «Бургундыя-Днепр» не давялі да ладу?

— А навошта? — здзівіўся Стукачоў. — Яна ж нікуды не ўцячэ.

Юры СТАНКЕВІЧ



# ПАРЫЖ — ЛАБІДУДАВА

САТЫРЫЧНАЯ АПОВЕСЦЬ

— Што, маць вашу, міжнароднага скандалу захацелі?! — зароў раптам Пузановіч.

Начальнікі нічога не разумелі. Тым не менш мэр з мацюкамі і без іх, цярпліва растлумачыў ім пра маючы адбыцца візіт.

— Ну, што будзем рабіць? — пасвідраваў ён іх вочкамі.

На гэта начальнікі паабяцалі неадкладна, нават сёння паслаць на вуліцу бульдозер, а потым і пару самазвалаў, зруйнаваць смецце, вывезці яго на звалку і засыпаць яр.

— Гнілыя парканы замяніць, пусціць аўтобус, — загадаў мэр. — А ўрэшце гэтае пытанне мы яшчэ абмяркуем заўтра на партгасактыве, — дадаў ён.

Начальнікі выйшлі з кабінета. Але мэр раптам спыніў іх.

— Ну а зараз атрымайце гуманітарную дапамогу, — сказаў ён, — хаця вы яе пакуль і не варты.

Пузановіч націснуў на званок і папрасіў сакратарку прынесці два камплекты.

●

Прыкладна ў гэты ж час загадчыца гарана Ярына Ваганетаўна Свіньіна зачынілася ў сябе ў кабінеце і загадала сакратарцы нікога не пускаць. Справа была ў тым, што раніцай яна таксама атрымала адзін камплект дапамогі, які прывезлі па разнарадцы з гарвыканкама.

Ярына Ваганетаўна была невысокая, скуластая і чорнавалосая жанчына, настаўніца па адукацыі, родам аж з Усурыйскага краю. У Лабідудава колькі гадоў таму накіравалі служыць яе мужа, маёра Свіньіна. Менавіта яе чамусьці прызначылі кіраваць гарана. Кіраваць ёй было няцяжка, праўда, гады чатыры таму пасунулася нейкая быццам беларусізацыя, нават з'явіліся праекты пра класы на мясцовай мове. Але апошнім часам са сталіцы падзьмуў іншы вецер, аб'явілі «вертыкаль». Пасля рэферэндуму пра класы больш не ўспаміналі. Свіньіна акрыяла і са згоды Пузановіча, які па-дзікунску ненавідзеў усё нацыянальнае, загадала іх закрываць. Праўда, у горадзе знайшоўся адзін бунтаўшчык, малады настаўнік беларускай мовы Курчэўскі, які, як далажылі загадчыцы, нават прыстрашыў з гэтай нагоды аб'явіць галадоўку. Жыў Курчэўскі на вуліцы «Бургундыя-Днепр», а працаваў у гімназіі непадалёку. Вопытная ў такіх справах Свіньіна пазваніла дырэктару гімназіі Пшыбыльскаму і прыватна папрасіла: тэрмінова, пакуль настаўнік не пачаў галадаць, праверыць яго на прафесійную прыдатнасць і адпаведна атэставаць... Пакінуўшы на потым гэтыя службовыя клопаты, Ярына Ваганетаўна ліхаманкава распакавала пакет з гуманітарнай дапамогай і... здзіўлена разявіла поўны залатых зубоў рот.

У пакеце ляжалі... зялёны нямецкі шынель і галіфэ. Нейкі час Ярына Ваганетаўна стаяла ў поўным непаразуменні, а потым выцягнула шынель і асцярожна памацала сукно. Яно аказалася вельмі якасным, а жонка вайсковага маёра ў гэтым выдатна разбіралася. Ярына Ваганетаўна апранула шынель і зазірнула ў люстэрка. Пабачаная там, яна сабе нечакана спадабалася: шэра-зялёнае сукно мякка адцяняла мноства гузікаў, якія блішчалі срэбрам. Не марудзячы, загадчыца ўбілася ў галіфэ і ахнула: усё было быццам на яе пашытае. Ярына Ваганетаўна хацела ўжо паказацца ў такім выглядзе сакратарцы, але раптам скумекала, што гуманітарную дапамогу выдзяляюць далёка не ўсім, і тады хуценька ўсё з сябе зняла.

Пасля Свіньіна ўспомніла пра справы, набрала нумар дырэктара школы Пшыбыльскага і спытала ў яго ці правялі прафесійную атэстацыю Курчэўскага? Дырэктар Пшыбыльскі адразу адрапартаваў, што камісію па яго атэстацыі настаўнік Курчэўскі адхіліў, выкладаць расейскую ці польскую мовы (замест адзінага беларускага класа ў школе ўвялі польскі) катэгарычна адмовіўся, аб'явіў галадоўку, напісаў ліст у міністэрства асветы і рушыў на гарадскую плошчу. «Дык я ўжо паведаміў пракурору і ў органы», — дадаў у канцы Пшыбыльскі.

— Ну і што было напісана ў тым лісце ў міністэрства? — пасля паўзы незадаволена спытала Свіньіна.

— Ніхто не ведае, — шчыра прызнаўся Пшыбыльскі.

Свіньіна павесіла слухаўку і задумалася. Трэ было прымаць нейкія захады, хоць параіцца з кім. Яна зноў зняла слухаўку і тэлефанавала сваёй сяброўцы — загадчыцы мясцовага музея Кілбасавай. Але, як паведамілі супрацоўнікі музея, Кілбасава была ў тэрміновай камандзіроўцы ў Маскве, у міністэрстве культуры

●

...Бульдазерыст Піліп Баран вёў свой бульдозер па вуліцы «Бургундыя-Днепр» у накірунку да цыганскіх шатроў. Тэрміновае заданне — зруйнаваць горы смецця, на якіх цыганы паставілі свае палаткі, а таксама зараўняць у кароткі час звалку і яр, не вельмі яму падабалася, нягледзячы на тое, што па загаду мэра яму выдалі як заахвочванне гуманітарны пакет. Баран быў цяпер у нямецкім шынялі і галіфэ.

Учора ён добра натрамбаваўся ў гаражах самагонкі, і зараз у галаву яму, хаця і грукатаў рухавік і моцна трэсла, з нейкім нібы птушыным піскам лезлі дзіўныя, часам палохаючыя яго думкі.

Так Баран раптам уявіў, што вядзе не бульдозер, а танк (а ў арміі ён служыў танкістам), і што яму далі загад узяць штурмам Дом Саветаў у Менску, дзе заселі бэнээфаўцы і іншыя нацыяналісты, а таксама турэцкія і чачэнскія шпіёны. Баран наліўся крывёю, заскрыгатаў зубамі, ды раптам ачуняў, але праз хвіліну зноў уявіў абы-што: быццам ён камандуючы танкавай арміяй і вядзе ўсю сваю броневую армаду на Вашынгтон...

Раптам ён заўважыў невялічкую драўляную краму, спыніў трактар, вылез з кабіны і пашыбаваў да гандлёвай кропкі, каб узяць там бутэльку піва. Яго бундэсвэраўскія галіфэ і шынель зрабілі на людзей у краме моцнае ўражанне, і Баран ледзь не ўзяў піва без чаргі. Але, калі глытаючы сліну, ён ужо соўгаў прадаўшчыцы грошы, нейкія асобы ў ватоўках і з сінякамі на тварах загірчалі на яго нібы зграя галодных сабак. Баран адступіў. Вельмі незадаволены, ён зноў сеў у трактар і рушыў з месца. Баран паволі мінуў вялізную звалку са смецця, яр, потым хлопчыка, побач з якім кормнік рыў лычом глебу, і ўрэшце дасягнуў канца вуліцы, дзе сапраўды ўбачыў горы са смецця, на якіх стаялі цыганскія шатры. Баран дадаў газу, ямчэй узяўся за рычагі і з разгону ўехаў у першую такую гару. Шацёр наверсе адразу абрынуўся долу, з-пад яго пачуўся віск, а потым адусюль павыскоквалі цыганкі, цыганы і цыганяты. Усчаўся вэрхал.

— А-ай, раманэ! Раманэ! — пачуў ён лямант. — Ратуйце!

●

Якраз калі адбываліся гэтыя падзеі, настаўнік Курчэўскі — худы, з доўгім носам і шэрымі вачыма малады чалавек, прыйшоў на гарадскую плошчу, дастаў раскладны зэдлік, павесіў на грудзі плакат, дзе было напісана чаму ён аб'явіў галадоўку, і сеў, падкурчыўшы ногі ў стаптаных чаравіках.

Плошча, між тым, жыла сваім жыццём. Сноўдалі чыноўнікі, заходзіў у мясцовы Дом гандлю народ, крычалі пра «далары, марачкі» маладыя, нахабныя валютчыкі, бегалі нейкія падшыванцы (адзін з іх шпульнуў у Курчэўскага камнем), але сваіх вучняў сярод іх настаўнік не пазнаў.

Першым заўважыў галадаючага бунтаўшчыка пенсіянер Гепеушын, які прагульваўся тут разам з сябрамі-адстаўнікамі. Гепеушын — мопсападобны, брывасты, з запхнутымі ватай вушамі, але ў капелюшы, уважліва прачытаў усё, што было напісана на плакаце галадаючага, вельмі ўсхваляваўся і паклікаў сваіх.

— Скажите, — лісліва звярнуўся ён да Курчэўскага, — какая разница, как мы с вами «размаўляем»? Ведь умные мысли на любом языке умные, так?

— Ну тое, што вы разумны, гэта яшчэ трэба даказаць, — абверг яго Курчэўскі, які не еў другія суткі і быў вельмі не ў гуморы.

Гепеушын разявіў рот.

— Нам, славянам, лучше говорить на одном языке, по-русски, — зайшоў ён з іншага боку.

— Гэта вы, можа, і славянін, — сказаў Курчэўскі, — а калі я — не?

Іх ужо атачылі адстаўнікі-пенсіянеры.

— Почему нет никого из органов? — незалюбілі яны. — Забрать его и немедля осудить...

Гепеушын адразу акрыяў.

— Но ведь кругом же русские, посмотрите, — заўважыў ён Курчэўскаму.

Настаўнік тужліва агледзеўся: і сапраўды, куды б ён ні плюнуў, стаялі адны «маскалі» і нахабна на яго пазіралі.

— Чыё сала, бульбу ядзіце, нкусаўцы?! — спытаў іх не на жарт пакрыўджаны і раззлаваны Курчэўскі. — Чаму ў чужых землях швэндаецеся, калі ў вас аж адна шостая частка зямнога шара?

— А как же вы тут без нас? Ведь у вас ни железа, ни нефти...

— Усё ў нас ёсць, дурыкі, — сказаў Курчэўскі. — А вы там жалеза ўсё роўна на танкі спляжыце, каб потым парламенты штурмам браць, а пакуль якую тону нафты здабудзеце, дык усё наваколле запаскудзіце, прыроду знішчыце, жывёл патруціце, азіяты...

— Нет, все-таки где органы? — зноў загаманілі адстаўнікі.

— Не працуюць даўно вашы органы, — з намёкам пакпіў галадаючы настаўнік. Спыніліся, так бы мовіць, а палове шостай.

Гепеушын з хеўрай адступілі.

Курчэўскі ямчэй насунуў на лоб кепку і ўзняў каўнер плашча. Сутонела. Вецер, нібы лісце. гнаў па плошчы ля самых яго ног «вавёркі», «зайцы» і нават «ваўкі» і «рысі». Гэта гарэзавалі ў канцы працоўнага дня валютчыкі, якія з рогатам кідалі ў паветра дробныя грошы. Інфляцыя паволі паскаралася.

●

У Маскве ў міністэрстве культуры трэцюю гадзіну чакала прыёму дырэктрыса Лабідудаўскага краязнаўчага музея Кілбасава.

Урэшце чыноўнік міністэрства, які абзваніў усіх сваіх сяброў і сяброўак і нудзіўся ад гультайства, успомніў пра наведвальніцу ў прыёмнай, прыняў заклапочаны выгляд і загадаў сакратарцы, каб яе пусціла.

Кілбасава, у нямецкім шынялі і з папкай у руках праціснулася ў кабінет.

— Я вельмі заняты, — сказаў ёй чыноўнік. — Таму прашу па сутнасці.

Лупаты твар Кілбасавай ад хвалявання пайшоў у плямы. Тым не менш, яна коратка патлумачыла, што ў беларускім горадзе Лабідудаве гарадскія ўлады з падтрымкай грамадскасці вырашылі пабудаваць музей-Панараму, прысвечаную генералісімусу Сувораву. Дык яна прыехала, каб атрымаць дазвол.

Чыноўнік міністэрства культуры анямеў. Ён аніяк не мог узяць у толк, чаму трэба яго дазвол на нейкую Панараму ў суседняй дзяржаве, Але ўрэшце быццам здагадаўся.

— Ага, — сказаў ён. — Вы хочаце, каб мы ахвяравалі вам грошай. Так?

Кілбасава рашуча адхіліла яго думку.

— Сродкі выдзеліць наш гарвыканкам, — сказала яна. — Трэба толькі дазвол.

Чыноўнік моўчкі раздумваў. Ад тых думак у яго спіснула ў патыліцы.

— Пачакайце тут, — урэшце сказаў ён, зайшоў у суседні кабінет і набраў па тэлефоне адпаведны нумар.

— Ало, — спытаў ён. — Гэта федэральная служба контрвыведкі?

— Так, — адказалі на тым канцы дроту. — Якое ў вас пытанне?

Чыноўнік растлумачыў, што ў яго ў кабінеце знаходзіцца падазроная асоба з суседняй дзяржавы, якая, на яго думку, з'яўляецца нямецкай шпіёнкай і здзяйсняе тут, у Маскве, польскую інтрыгу. Калі ж яго папрасілі расказаць больш падрабязна, то ён паведаміў, што генералісімус Суворaў у васемнаццатым стагоддзі лупіў скуры, страляў і вешаў у той суседняй дзяржаве ўсіх, каго хацеў, і што прапанова будаваць там у яго, генералісімуса, гонар Панараму — гэта прыкрыццё нямецка-польскай інтрыгі, не інакш, бо ў нармальнай, сумленнай дзяржаве і нармальным народзе такога жадання ўзнікнуць не можа аніяк і ніколі.

— Затрымайце яе пад любой зручнай прычынай, — параілі яму праз паўзу. — Мы выязджаем.

Праз некалькі хвілін двое маладых людзей у шэрых плашчах і капелюшах зайшлі ў кабінет.

— Скажыце, — ветліва ўсміхаючыся, спытаў Кілбасаву адзін з іх, — з якой дзяржавы вам выдалі такое прыгожае адзенне? — І ён паказаў на шынель.

— З Нямеччыны, — адказала ўсцешаная кампліментам Кілбасава.

Маладыя людзі пераглянуліся.

— Так, так, — падсумаваў другі малады чалавек. — Цяпер вы, калі не супраць, паедзеце разам з намі. Мы будзем вырашаць ваша пытанне на дазвол Панарамы ў больш высокай інстанцыі.

Кілбасава радасна згадзілася.

●

Між тым мэр Лабідудава Пузановіч забраў з гарвыканкамаўскага гаража і ўвечары адвёз дадому дыван, ахвяраваны з Нямеччыны з гуманітарнай дапамогай. Дыван, пад кіраўніцтвам жонкі мэра Сняжаны Панцялееўны, усцягнулі на сцяну ў спальні і гэтак замацавалі, каб было падобна на інтэр'ер, які жонка мэра бачыла ў фільме пра багатых, якія таксама плачуць.

Пасля вячэры, калі ўжо пілі каву (а жылі і елі ў доме мэра цяпер так, як у стужцы пра Марыяну), Сняжана Панцялееўна раптам сказала:

— Няхай мадам Гурон хутчэй прыязджае.

Ад нечаканасці мэр разявіў рот.

— Гэта яшчэ чаму? — здзіўлена спытаў ён.

— Мы едзем у Парыж.

І Сняжана Панцялееўна растлумачыла іншым разам не зусім кемліваму, на яе погляд, мужу, што мадам Гурон павінна будзе запрасіць іх у госці ў адказ. Калі ж яны збяруць даніну з усіх каўказцаў з камерцыйных крамак (а ім мэр за хабар аддаў пад водкуп увесь гарадскі гандаль), і, пабыўшы ў Парыжы, набудуць там шмат розных французскіх рэчаў і столькі ж папросяць, як гуманітарную дапамогу, то тут, у Лабідудава, выгадна ўсё рэалізуюць. А потым пашлюць вучыцца ў Сарбону сына Руслана і дачку Людмілу, бо дапаможа ў гэтым менавіта мадам Гурон. А неўзабаве яны і самі пераедуць да дзяцей у Парыж.

Пузановіч, падумаўшы, сказаў на гэта, што план неблагі, тым больш, што яму снілася, быццам яго прызначылі Старшынёй Зямнога Шара, і, пэўна, гэты сон павінен жа неяк спраўдзіцца, ну, хоць на чвэрць.

Сняжана Панцялееўна пасля яго слоў адразу скіравала ў спальню па соннік. Яна зайшла ў пакой, хацела запаліць святло, зірнула на сцяну, дзе вісеў дыван, і...

Са спальні пачуўся дзікі віск. Потым адтуль выскачыла Сняжана Панцялееўна. Падвойны яе падбародак трэсся ад страху.

— Там, там! — тыцкала яна пальцам, і раптам самлела.

Мэр з сынам Русланам асцярожна зазірнулі ў цёмны пакой. Пузановіч перавёў позірк на сцяну і... знерухомеў.

У цемры дыван фасфарыцыраваў зусім іншы малюнак. На ўсю шырыну выяўлялася вялікая труна. абкладзеная па баках кветкамі. У труне ляжаў... тэарэтык камунізму і аўтар «Капіталу» Карл Маркс.

●

На гарадской плошчы настаўнік Курчэўскі тужліва агледзеў наваколле, але, акрамя гіганцкай статуі правадыра з узнятай рукой, нічога не ўбачыў. Наступіла ноч. Рэдкія машыны асвятлялі фарамі бунтара, і зноў яго ахінала цемра.

Яшчэ праз якую гадзіну да галадаючага падрулілa таксі. З кабіны вылез шафёр — каржакаваты чалавек з неакрэсленымі рысамі твару. Ён спытаў у Курчэўскага чаму той не спіць, і ці не падвезці яго дадому. Настаўнік растлумачыў, што пратэстуе, а гэта з'яўляецца грамадзянскім актам і таму ён нікуды не паедзе. Таксіст сказаў, што яму таксама самотна, пасажыраў няма і не прадбачыцца, і таму ён прапануе пасядзець і пагаварыць. Курчэўскі згадзіўся.

Таксіст нырцануў у кабіну і неўзабаве з'явіўся зноў, але ў руках трымаў кольца кракаўскай кілбасы, пляшку рускай, шклянку і бохан белага хлеба.

— Мне ўсё роўна ў гараж, — растлумачыў ён, наліў у шклянку і прапанаваў настаўніку: — Пі, ніхто ж не ўбачыць!

Таксіст між тым выпіў сам, адламіў кілбасы, хлеба і гучна зачвякаў сківіцамі. Ад паху кракаўскай і гарэлкі Курчэўскі пусціў сліну, а яго страўнік пачаў сутаргава скарачацца.

— За кампанію, — угаворваў таксіст.

— Не, — адмовіўся бунтаўшчык. — За ідэю змагаюся.

Таксіст пасля яго слоў з радасцю дапіў рускую, даеў кілбасу і хлеб, але гаварыць не застаўся і паехаў. Праз некалькі хвілін

*(Працяг на стар. 14 -15)*

## АРТЫСТ — НЕ ПТУШКА. АЛЕ, БЫВАЕ, ШТО АДЛЯТАЕ...



**Падобна, што свой чарговы сезон Берасцейскі тэатр лялек распачне без аднаго са сваіх лепшых артыстаў — Уладзіміра Зайцава. Аддаўшы сцэне менавіта гэтага тэатра некалькі дзесяткаў год працы, артыст раптам вырашыў падацца ці то ў сталічную куламесь, ці то, можа, і далей... Шыкоўных скарбаў не нажыўшы, сталага цёплага кутка так і не прыдбаўшы. Бадай, адзіны нерастрачаны скарб, які быў і яшчэ застаецца ва Уладзіміра Яфімавіча, — ягоны талент, рэдкі талент угледзець, адшукаць, паказаць у лялькі жывую душу.**

**У тэатры, які, дарэчы, Зайцаў пакінуў абсалютна безканфліктна, аб зыходзячым артысце відавочна пашкадавалі, аднак наладзілі яму годныя праводзіны ды ўручылі на памяць ручны гадзіннік — каб і надалей яшчэ доўга адлічваў шчаслівыя хвіліны, праведзеныя добрым ды шмат спасцігшым акцёрам на сцэне.**

**І.Х.**

## СВЕТЛЫЯ І ДОБРЫЯ ЎСПАМІНЫ

**Звычайны вясковы краявід. Цёплыя і халодныя адценні мілагучных колераў лета, простая кампазіцыйная пабудова. На першым плане — прыгожы выгіб рэчкі, берагі якой параслі аерам і кветкамі. Па дарозе да вёскі, над якой узвышаюцца купалы царквы, праз масток павольна рухаецца брычка. На вазку ўтульна месцяцца шчаслівыя закаханыя. На ўсыпаным краскамі поплаве — магутны дуб. Ідылія! І замірае сэрца ад гэтага наіўнага хараства, створанага самадзейнай мастачкай Вольгай Маліцкай з вёскі Яшкавічы, што на Валожыншчыне.**

**«Дарога ў дзяцінства» — так назвала гэты твор шасцідзесяцігадовая Вольга Пятроўна. Звычайная сялянка, што выгадавала двух сыноў, мае ўнукаў. Стаць мастаком яна ніколі і не марыла, але, магчыма, ад прыроды ў яе было закладзена своеасаблівае мастакоўскае ўспрыманне свету.**

**На шостым дзесятку яе сонцазвароту сям'ю напаткала вялікае гора — трагічная смерць сына. Шукаючы паратунку ад шчымлівага сардэчнага болю, выпадкова ўзяла ў рукі аловак і пачала выводзіць на аркушы дарагія рысы. Штосьці атрымалася. Праз маляванне прыйшоў душэўны супакой. З таго дня ў вольныя хвіліны яна пачала маляваць.**

**Толькі самыя светлыя і добрыя ўспаміны прасіліся застацца на паперы. Уражаны душэўным станам маці, сын з Мінска прывёз набор плакатнай гуашы ў шэсць колераў. Жончыны намаганні падтрымаў і занепакоены муж. Пад аснову твораў пайшлі ўпакоўкі з кардону, кавалкі фанеры...**

**Так з'явіўся шэраг лірычных пейзажаў, навеяных настальгіяй па далёкім юнацтве, што прайшло на Вілейшчыне ля рэчкі Ілля. «На ўскрайку бора» (1991), «Рэчка Ілля зімою» (1992), «Балотца» (1993), «Родныя палеткі» (1994) мажорныя па каларыце, інтуітыўна ўраўнаважаныя кампазіцыйна, пластычна выразныя. Усе гэтыя работы былі паказаны на першай выставе Вольгі Маліцкай у Івянецкім музеі.**

**Апошнім часам Вольга Пятроўна ўсё часцей звяртаецца да міфалагічных і біблейскіх сюжэтаў. Рыхтуецца ажыццявіць сваю мару — напісаць цыкл карцін для парафіяльнай царквы. Дапаможа ёй бог!**

**А. РАМАНОЎСКІ**

*г. Івянец*



*"Салавей"*

# МАСТАЦКІХ КРЫЗІСАЎ НЕ ВЕДАЕМ...



*С.Станюта ў спектаклі «Раскіданае гняздо»*

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

увагу купалаўскія афішы і патрабаванні гераіні спадарыні Браварскай (вох, шумеў спектакль, вох шумеў). А спадар Крук — на стол здымкі. «Апошняй ахвяры», напрыклад, са спадаром Рахленкам і ягонаю партнёркаю Ліліяй Давідовіч у сваіх энцыклапедычных ролях! Але далей па купалаўскіх афішах праходзіць «Апошняе спатканне», а я шчыра баюся падобных прыкметаў. Зусім не хачу пачуць, як «Дзверы стукаюць», калі адміністрацыі няма чаго адказаць на пытанні грамадскасці. Затое ёсць спектаклі, якім цесна на сцэне. Якія пакрысе акупіруюць залу, не тое што ложы (толькі не цэнтральную!). «Нежанаты мнагажэнец», напрыклад, выглядае сабе ахвяру якраз з залы, а Зоя Белахвосцік, седзячы ў ёй, мусіць, змушана спінаю выяўляць свае пачуцці. А якою красамоўнаю можа быць спіна, раз-пораз даводзяць адметныя мізансцэны ўсіх без выключэння купалаўскіх рэжысёраў. У «Ідыліі» рацыяй Мікалая Пінігіна спінаю выдае роспач Банавентура Выкрутач спадара Авяр'янава, у «Вяртанні» Э.Трапіева, колішнім спектаклі Андрэя Андросіка і малой сцэны, спіна Ігара Дзянісава выдавала на разгубленасць ды неабароненасць ад пяшчотнай абыякавасці свету. Шкада, аўтар гэтай выбітнай фармулёўкі, спадар Камю, яшчэ не зрабіўся сваім сярод купалаўскіх драматургаў. Дарэчы, надаралася, сёй-той іграў і ў меху седзячы, — гэткую рэмінісцэнцыю беларускага шкалярскага тэатра спавядаючы. Спадар Макаёнак прапанаваў такую мізансцэну, яшчэ п'есу пішучы, а спадар Раеўскі знайшоў выканаўцу — Генадзя Аўсяннікава. Той, хто раз гэта бачыў, наўрад ці забудзецца. Здарылася гэта ў 1971 годзе, які б я назвала годам спадара Макаёнка ў купалаўскім тэатры, бо на адзін сезон дзве п'есы — гэта можна толькі на Брадвеі і ў Купалавай акадэміі, калі да цябе пільна паставяцца два рэжысёры адразу: спадар Раеўскі ды спадар Луцэнка. Бо менавіта апошняму належыць вырашэнне «Зацюканага апостала», а праз два гады — і «Таблеткі пад язык». Увогуле, займаючыся энцыклапедычнымі росшукамі, мне пашэнціла давесці да грамады вядомае, але добра забытае старое. Як вы думаеце, якія героі рускай класікі траплялі ў поле зроку купалаўскіх рэжысёраў? А вось Пушкіна ды Фанвізіна. Я не кажу пра Чэхава, Астроўскага... А пра «Капітанскую дачку» вы згадаеце? На яе прыпаў сам 1937 год. Яе ставіў сам Леў Літвінаў. Тады, у 1937, ён ацалеў — мабыць, дзеля таго, каб давесці да сцэны «Паўлінку» ў сваёй рэдакцыі. Тую самую, што выдае з твару ўжо на пяць купалаўскіх актрыс... У 1949, калі працягваць пушкінскую тэму, з'явіліся сцэны з «Барыса Гадунова» і «Скупы рыцар». А занепакоеная тэатральная грамадскасць да сёння сумняваецца, ці існуюць хоць дзе пераклады спадара Пушкіна «на белорусский язык»? І як быць таму спадзвіжніку, які не збаіцца... Пушкіна на нацыянальнай сцэне? Мяне асабіста пераканаў спадар Шэкспір. Ён, з'яўляючыся на нацыянальнай сцэне, хоць шмат, хоць няшмат гадоў таму, мае калі не поспех, дык, прынамсі, розгалас. Такі розгалас, які трымае яго ў рэпертуары даўжэй за поспех. «Тысяча франкаў узнагароды» паводле спадара Гюго (спектакль 1962 года!) таму, хто возьмецца гэта аспрэчыць. Нягледзячы на ўсе канстатаваныя купалаўска-тэатравыя крызісы. Дарэчы, іх таксама трэба класіфікаваць. Як паводле маёй класіфікацыі, дык мастацкіх, як такіх, не ведаю. Ведаю суровыя адміністрацыйныя. Калі няма чым сцены фарбаваць і абабіваць крэслы. Любая замінка на сцэне — наступства працяглага адміністрацыйнага крызісу, з якога не выйсці ні «Вечарам», ні праз «Парог» — адметным драматургічным чынам і чыннасцю драматурга спадара Дударава, напрыклад. Яшчэ адзін буфет, яшчэ адна кавярня, яшчэ адзін «Театральный разъезд», напярэймы міні-фестывалю альтэрнатыўнага тэатра (ён яшчэ чатыры гады таму абвясціў гэтую назву). Раз'езд пры сталах і крэслах. Пры напоях і ежыве. Пры малой сцэне і немалым кошце. «Госці» І.Чыгрынава, што зазналі прэм'еру на гэтай самай малой сцэне, не ўслухаліся ў «Плач перапёлкі». Яна, перапёлка, адплакала і адляцела. Яны... збіраюць залу-спачувальню нялёгкай долі людзей з білетамі КПСС. Яны, сапраўды, ужо госці ў зменлівай «эканомічна-палітычной сытуацыі». У якой — наступнай — давядзецца гасцяваць нам?

А цяпер — пра сямідзесяціпяцігоддзе. Што каму ўяўляецца ў звязку са словазлучэннем «сямідзесяціпяцігоддзе купалаўскага тэатра»? Даём час падумаць. У звязку з мастацтвам і з жыццём. Думкамі прапануем падзяліцца з намі. Паставімся да іх спагадліва і паставім у шэраг з думкамі нашых сталых аўтараў: публікацыі, прысвечаныя купалаўскаму тэатру, я спадзяюся, ніколі не скончацца. Ніколі не знікнуць з нашых старонак. Пакуль будуць самі старонкі.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Фота Ул. КРУКА, А. ІЛЛІНА, В. СТРАЛКОЎСКАГА.



*«Людзі на балоце»*



*В.Манаеў у спектаклі «Тутэйшыя»*

# РАЗВІТАЛЬНАЯ ПЕСНЯ ПАЭТА

**17 верасня — дзень нараджэння Максіма Танка. Для кожнага вераснёўскага нумара свайго любімага часопіса «Полымя» ён заўсёды рыхтаваў новую падборку вершаў. Так было і ў гэтым годзе. Ужо даўно творы чакаюць у рэдакцыі сустрэчы з чытачом. А сам паэт адчуваў, што да свайго дня нараджэння ўжо не дажыве. Але калі яму асцярожна прапанавалася зрабіць так, каб вершы пабачылі свет раней, то ён не захацеў парушаць традыцыю, хоць і гаварыў, што іх у часопісе ўжо не пабачыць.**

**Моцна пакутаваў ён апошнія месяцы. Але калі я заходзіў да яго, то ў адказ на маё непазбежнае пытанне пра самаадчуванне спачатку коратка гаварыў пра тое, як прайшла ноч, і хутка пераключаўся на агульныя тэмы — на чарговы нумар «ЛіМа», «Полымя», на пытанні далёкай і блізкай гісторыі, на публікацыі ў польскай перыёдыцы. І тады забываў пра свае збалелыя ногі, пра тое, што ноччу зусім не спаў, хоць і прымаў снатворнае.**

**Аднойчы Любоў Андрэеўна, яго жонка, сказала мне: «Вы не даяце яму хварэць». Я прыносіў яму польскія газеты, якія рэгулярна прысылаў мне з Варшавы мой добры і даўні знаёмы Аляксей Апалінскі, шчыры прыхільнік беларускай, рускай і ўкраінскай культур.**

**У «Полымі» чакала вераснёўскай пары падборка вершаў, а ў Максіма Танка тым часам нараджаліся новыя творы. І зноў набралася салідная нізка. Тут я паведаміў, што часопіс «Крыніца» збіраецца прысвяціць яму значную частку аднаго са сваіх чарговых нумароў. Хоць паэт найбольш цесна быў звязаны са сваім родным «Полымем», але на гэты раз ён згадзіўся перадаць творы ў «Крыніцу». Пра гэта мы, у прыватнасці, гаварылі з ім у яго дома — за 15 мінут перад тым, як ён назаўсёды развітаўся з ім, і ў бальніцы за тры дні перад смерцю. Тады ж ён мне паведаміў, што незвычайна вялікае ўражанне зрабіла на яго апавяданне — у той самай бальніцы — Алеся Звонака пра пакуты ў сталінскіх лагерах.**

**У «Крыніцы» ўся падборка з'явіцца не так хутка, і ўвазе чытачоў «ЛіМа» прапануецца некалькі самых апошніх вершаў паэта адтуль з некаторымі каментарыямі. У пачатку гэтага года Максім Танк працяглы час (каля трох тыдняў) знаходзіўся ў бальніцы, дзе сустракаўся апошні раз з Піменам Панчанкам. Пазней ужо, калі я па тэлефоне паведаміў яму пра смерць паэта, то ён заплакаў і некалькі разоў незвычайна трывожным голасам паўтарыў: «Што гэта робіцца...» І прысвяціў яму развітальны верш, у якім, у прыватнасці, згадаў адзін эпізод з часоў Вялікай Айчыннай вайны. Аднойчы Міхась Лынькоў прапанаваў Танку і Панчанку перакласці на беларускую мову верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам», апублікаваны ў газеце «Правда» на рускай. І гэты пераклад, зроблены ў лесе на пянёчку, потым друкаваўся. Самі тагачасныя матэрыялы засталіся ў Пімена Панчанкі.**

**З усёй падборкі мяне найбольш уразіў апошні верш, прысвечаны памяці жонкі. Звычайна Максім Танк свае новыя творы чытаў мне сваім самабытным напеўным голасам — часамі нават і па тэлефоне. А вось пра гэты верш я не ведаў, пакуль не пабачыў яго ў сшытку. І зразумеў прычыну. Сам паэт увесь час дакараў сябе, пакутліва перажываў, што на працяглы час лёг у бальніцу, пакінуўшы самотную жонку, прыкаваную да інваліднай каляскі. А Любоў Андрэеўна моцна падалася за гэты час, пазбаўленая яго маральнай і духоўнай падтрымкі на месцы. Неўзабаве яна і памерла. Занадта глыбокай і свежай была рана, каб яе можна было агольваць перад чужым чалавекам. А я сам, прызнацца, не асмеліўся загаварыць з Максімам Танкам пра гэты верш.**

**Чытанне газет, праца над вершамі ці гутарка з кімсьці дазвалялі паэту на нейкі момант перамагаць боль. У апошніх песнях ён не скардзіцца на свае асабістыя пакуты. Можна было б падумаць, што ў яго звычайны, размераны творчы рытм, хоць і азмрочаны балючымі стратамі. Між тым на працягу многіх месяцаў ён ведаў, што няўхільна набліжаецца час развітання яго з жыццём, з усім тым, чаму ён прысвяціў усяго сябе.**

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

Максім ТАНК

## АПОШНЯЯ СТРЭЧА

Дзе тут Панчанка Пімен.
У якой ён палаце?
Добры дзень! Не ўставай...
А ты, Зоя, што плачаш?

Як даўно не страчаліся
Мы, валацугі.
Пастарэлі так, што
Ледзь пазналі друг друга.

Помніш Бранск,
адступленне,
На рубеж ідзём новы
Крапіва, Броўка, мы
З камісарам Лыньковым?..

Ты ўжо быў лейтэнантам
І паэтам дасужым.
Пад адным шынялём
Разам грэліся ў сцюжу.

Помніш змешчаны
ў «Праўдзе»
Верш славуты Купалы,
Як на мову сваю
Яго перакладалі?

Потым перасылалі
Ў тыл варожы, як зброю,
Ў Беларусь, на радзіму,
Партызанам-героям.

Хутка нашы дарогі
Вайна пакрыжавала.
На кароткіх прывалах
Свае вершы чыталі.

Часам пісьмы атрымліваў
Неспадзявана
То з Заходняга фронту,
То з Каўказа, з Ірана.

Дзе вятры артабальскія
На перавалах,
Быццам скрыпку, цябе —
Ты пісаў — пілавалі.

Невясёлыя, дружа,
Сённяшнія навіны.
Хлебазбор ці дацягнем
І да палавіны.

Ў занядбанні яшчэ
І навука і мова...
З перакосам ідзе
Наша перабудова.

Выбачай, бо і сам ты
Пра ўсё чуеш і знаеш.
Дактары гаварыць
Доўга забараняюць.

Што ж рабіць?
Наступае ўжо
Восеньскі вечар.
Так карціць на расстанні
Сказаць: Да сустрэчы!

З баявымі сябрамі,
Заваліўшыся ў госці,
Прыгадаць незабыўныя
Дні маладосці.

Маладосці, якая
Гартавалася ў горы,
Ды ўсё роўна шкада, што
Мінула так скора!
*6.VII.95*

●

Старажытныя
Папераджалі нас, быццам,
Што больш за ўсё
Зямля наша
Дрыжыць і баіцца:
Каб не стаў блазан
Над ёй каралём,
Каб ненажэрны
Не сеў за сталом,
Каб фаварытка,
Што ўсіх пацяшала,
Пасля смерці пані
Ды паняй не стала.

Забылі, разумнікі,
Толькі аб тым,
Што трэба, каб быў
І народ не нямым.
*21.VI.95*

## БЕЖАНСКАЯ ЁЛКА

Гэта нават не ёлка —
Адна толькі галінка,
Што мне бацька прынёс
З Сухараўскага рынка.

Мы яе ля пячуркі
Сяк-так прымацавалі,
Самаробнымі цацкамі
Неяк прыбралі.

Тут жа намаляваў я
Віфліем і стадолу,
Каралёў трох і трох
Белакрылых анёлаў.

Усё тое, што чуў я
Ў бежанстве, у блуканні,
Ў матчыных успамінах,
Песнях-калядаваннях.

І хоць потым дзівосных
Бачыў ёлак нямала,
Сам не знаю, чаму
Ў маю памяць запала

Не другая падзея
Ў час суровы і золкі,
Але першая гэта
Навагодняя ёлка.

Бацька, згорблены, ладзіць
Маіх тэпцяў падноскі...
Было ўсё гэта, помню,
На завулку Сушчоўскім

Ля той цэркаўкі самай,
У якой бываў часам,
Са званамі разбітымі,
Збітым іканастасам.

Дзе замальваў часта
У святога Міколы
Свае жарты і двойкі
З Краснапрэсненскай
школы.

І прызнаюся шчыра,
Што не раз ён і потым
Грэшнаму памагаў мне
Ў розных бедах, клапотах.
*23.VI.95*

●

Як жа сталася гэтак,
Што пры любой прыгодзе
Мы, пакляўшыся разам
Бурны Сцікс пераходзіць,

Ты адна не чакала,
Калі сцішацца воды,
Небяспеку забыўшы,
Пайшла ў пошуках броду.

Цяпер клічу цябе я,
Адзіноцтвам пранятаы.
Хто з нас клятву парушыў,
Хто найбольш вінаваты?

Пэўна — я, бо не ўбачыў
Праз начную заслону,
Як да берага бура
Гнала лодку Харона.
*24.VI.95*

# Павел МАСЛЕНІКАЎ

Беларуская мастацкая культура панесла цяжкую страту. З жыцця раптоўна пайшоў народны мастак Рэспублікі Беларусь Павел Васільевіч Масленікаў.

Нарадзіўся П.В.Масленікаў 1 лютага 1914 года, у вёсцы Нізкая Вуліца на Магілёўшчыне. Пасля заканчэння ў 1938 годзе Віцебскага мастацкага вучылішча мастак пачынае свой творчы шлях у Беларускім Дзяржаўным тэатры оперы і балета майстрам сцэнічнай дэкарацыі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ён, будучы салдатам-франтавіком, ад першага да апошняга дня прайшоў дарогамі выпрабаванняў. Скінуўшы вайсковы шынель, П.В.Масленікаў вяртаецца на творчую работу ў тэатр.

Яго яскравы талент мастака-сцэнографа праявіўся пры пастаноўках шэрагу музычных спектакляў, у тым ліку: «Бахчысарайскі фантан» Б.Астаф'ева, «Прададзеная нявеста» Б.Сметаны, «Салавей» М.Крошнера, «Дэман» А.Рубінштэйна, «Страшны двор» С.Манюшкі і інш.

Творчая дзейнасць Паўла Васільевіча была разнастайнай. Яго ведаюць як аднаго з навукоўцаў, што ўнёс значны ўклад у беларускае мастацтвазнаўства. У сваіх шматлікіх артыкулах і нарысах кандыдат мастацтвазнаўства П.В.Масленікаў паслядоўна адстойваў чысціню рэалістычнага мастацтва, яго невычарпальнасць і гуманістычную годнасць.

П.В.Масленікаў шмат свайго часу аддаў педагагічнай рабоце. Ён працаваў выкладчыкам Мінскага мастацкага вучылішча, загадчыкам кафедры тэкстылю Беларускага Дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, а з 1960 па 1964 гг. становіцца яго рэктарам. З гэтага перыяду сваёй дзейнасці мастак цалкам аддаецца развіццю станковага жывапісу.

Ім створаны шэраг палотнаў, прысвечаных нашай гісторыі, непаўторнай прыгажосці роднага краю, у якіх прысутнічае эмацыянальная ўзрушанасць, тонкае адчуванне стану прыроды, каларыстычная гучнасць, вобразная выразнасць. Гэтыя якасці характарызуюць П.В.Масленікава як буйнога мастака нашай сучаснасці. Жывапісныя творы «Зямля беларуская», «Жнівень», «Золата бяроз», «Партызанскае Палессе», «Над возерам» атрымалі шырокую вядомасць грамадскасці, заслужана ўвайшлі ў склад нацыянальнай скарбонкі выяўленчага мастацтва Беларусі.



На працягу творчага шляху мастак прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Ён неаднаразова выбіраўся членам праўлення творчай арганізацыі, старшынёй праўлення Мастацкага фонду Саюза мастакоў Беларусі.

За заслугі перад Айчынай П.В.Масленікаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, Граматамі Вярхоўнага Савета БССР, яму прысвоена ганаровае званне народнага мастака Рэспублікі Беларусь.

Светлая памяць аб мастаку-грамадзяніну, чалавеку прыгожай душы Паўлу Васільевічу Масленікаву назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Лукашэнка А.Р., Грыб М.І., Чыгір М.М., Русакевіч У.В., Гаркун У.Г., Замяталін У.П., Бутэвіч А.І., Стражаў В.І., Ганчарык У.І., Ярмошын У.В., Кулічкоў А.М., Сівіцкі Д.А., Гарэцкі Р.Г., Чыгрынаў І.Г., Яроменка М.М., Буралкін Г.В., Дудараў А.А., Зуёнак В. В., Кавалеўскі Я. М., Лучанок І.М., Шаранговіч В.П., Картэс С.А., Савіцкі М.А., Вашчанка Г.Х., Гуміleўскі Л.М., Грамыка В.А., Данцыг М.В., Кашкурэвіч А.М., Кішчанка А.М., Чамадураў Я.Р., Шчамялёў Л.Д.**

# І Ў ДЗЕНЬ, ЯКІ СТАЎ АПОШНІМ...

Памёр Павел Васільевіч Масленікаў, мастак, крытык, педагог. Кажуць, калі цябе цікавіць, чаго ты варты, паспрабуй уявіць, колькі чалавек прыйдзе на тваё пахаванне. На пахаванні Паўла Васільевіча людзей было шмат. Родныя, блізкія, калегі, вучні — і людзі аднаго з ім пакалення, і саракагадовыя, якія памятаюць яго і ўважаюць за настаўніка, і сённяшнія студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў. Некаторых сваіх сяброў, з кім калісь разам вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім і ўжо колькі год не бачыў, сустрэў там, каля труны Паўла Васільевіча...

Летась Павел Васільевіч справіў сваё 80-годдзе. Не кожнаму даецца такое доўгае жыццё. І трэба сказаць, што ў гэтым жыцці не было змарнаваных гадоў. І ў дзень, які стаў для мастака апошнім, ён збіраўся працаваць: былі падрыхтаваны палатно, пэндзлі.

У апошнія гады здароўе ўжо не дазваляла Паўлу Васільевічу выбірацца на эцюды далёка. Ён маляваў прыроду паблізу горада. І зараз, калі кожны дзень я езджу на аўтобусе з Бараўлян на працу і назад, і бачу за акном краявіды нібыта з палотнаў майго настаўніка...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Аркадзь КАНДРУСЕВІЧ

10 верасня 1995 года трагічна абарвалася жыццё пісьменніка Аркадзя Лявонавіча Кандрусевіча.

Аркадзь Лявонавіч Кандрусевіч нарадзіўся 10 верасня 1929 года ў вёсцы Ламачы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння школы і Мазырскага педагагічнага вучылішча працаваў настаўнікам у Тульчавіцкай сярэдняй школе Хойніцкага раёна. З 1948 па 1951 год вучыўся ў Ленінградскім мастацка-графічным педвучылішчы, затым працаваў настаўнікам у школах Мазыра, Пскова, Калінкавіч. З 1954 года перайшоў на журналісцкую працу. Быў літсупрацоўнікам нараўлянскай, хойніцкай раённых газет, абласной газеты «Магілёўская праўда», загадчыкам аддзела ілюстрацыі рэспубліканскай газеты «Звязда». У 1969 годзе вярнуўся на працу ў «Магілёўскую праўду». У 1978 годзе завочна скончыў філфак Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А.Куляшова. Кіраваў у 1972—1984 гадах абласным літаратурным аб'яднаннем «Прыдняпроўе».

Першыя літаратурныя творы Аркадзя Кандрусевіча з'явіліся ў друку ў 1956 годзе ў «Гомельскай праўдзе», пазней — у рэспубліканскім часопісе «Вожык».

Праца ў перыядычным друку забірала шмат сіл і энергіі, але ён знаходзіў час і для творчасці. Убачылі свет ягоныя кнігі прозы «Чарпак Вялікай Мядзведзіцы», «Кругі на Белай паляне», асобныя публіцыстычныя творы. У прыватнасці, Аркадзь Кандрусевіч зрабіў літаратурную апрацоўку кнігі ўспамінаў партызанаў і падпольшчыкаў Магілёўскай вобласці.



Аркадзь Кандрусевіч быў старанным працаўніком, чалавекам прынцыповым і сумленным, зычлівым і таварыскім. Ён шмат увагі надаваў выхаванню творчай моладзі, рупіўся на ніве грамадскай працы.

Светлая памяць аб Аркадзю Кандрусевічу назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто працаваў разам з ім, ведаў яго па літаратурным жыцці.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

каб прыцягнуць на свой бок сімпатыі і падтрымку падчас рэферэндуму беларускіх палітычных лідэраў і беларускага насельніцтва.

Слова «плебісцыт» было амаль самым папулярным словам у Вільні ў 1921 годзе. Аб тым, што ў хуткім часе насельніцтва Віленшчыны павінна выказацца адносна сваёй магчымай дзяржаўнай прыналежнасці, ведалі амаль усе. Ды і падрыхтоўка да гэтага ўсеагульнага галасавання вялася поўным ходам. Горад быў літаральна запоўнены самымі рознымі дэлегацыямі, якія дзейнічалі пад эгідай Лігі Нацый. Гэтая новая міжнародная арганізацыя планавала нават накіраванне сюды спецыяльных міжнародных вайсковых аддзелаў (якія павінны былі складацца з амерыканскіх і французскіх жаўнераў). Мэта іх была сачыць за парадкам падчас правядзення плебісцыту. Дарэчы, да накіравання ў Вільню войск так і не дайшло. Чаму?

Справа ў тым, што ўсё лета 1921 года пад апекай Лігі Нацый ішлі перамовы паміж літоўскай і польскай дэлегацыямі ў Бруселі. Пры гэтым галоўным пасрэднікам у канфлікце быў бельгійскі міністр замежных спраў Поль Гіманс. Ён рабіў усё магчымае, каб варагуючыя бакі дасягнулі кампраміснага паразумення.

Літоўцы ў сувязі з планавым галасаваннем настойвалі на неадкладным вывадзе польскіх аддзелаў генерала Жэлігоўскага з Вільні і абвяшчэнні горада адкрытай зонай пад міжнародным кантролем. Літоўскі бок не без падставаў лічыў, што немагчыма праводзіць нейкае галасаванне, а тым болей плебісцыт, калі сам горад і пераважную частку сродкаў масавай інфармацыі кантралююць польскія ўлады. Літоўцы таксама націскалі на тое, што толькі нейтральная адміністрацыя пад міжнародным кантролем здольная забяспечыць свабоднае выказванне жыхароў Віленшчыны ў такой важнай для лёсу краю справе.

Міжнародная камісія Лігі Нацыі пад старшынствам Поля Гіманса з зразуменнем ставілася да літоўскага пункту гледжання і была гатова накіраваць на Віленшчыну неабходную колькасць міжнародных прадстаўнікоў і адпаведныя вайсковыя аддзелы.

Правядзенне рэферэндуму на Віленшчыне ў справе дзяржаўнай прыналежнасці гэтых тэрыторый не было ізаляванай міжнароднай акцыяй, якая праводзілася Лігай Нацый у гэты перыяд. Французскія і амерыканскія войскі ў якасці назіральнікаў і гарантаў свабоды выказвання насельніцтва былі ўведзены ў Ніжнюю Сілезію і на Памор'е, спрэчныя польска-нямецкія тэрыторыі. Плебісцыт пад назіраннем войск Лігі Нацый праводзіўся таксама ў Саары, на які прэтэндавалі французы і немцы. Дарэчы, калі плебісцыт у Саары прайшоў даволі спакойна (большасць насельніцтва там выказалася за прыналежнасць да Нямеччыны), дык у Сілезіі плебісцыт нічога не вырашыў, а толькі прывёў да двух цяжкіх і крывавых узброеных канфліктаў паміж мясцовым нямецкім і польскім насельніцтвам. Палякі не хацелі згадзіцца з вынікамі рэферэндуму, якія, на іхнюю думку, былі падтасаваны мясцовай нямецкай адміністрацыяй. Часткова яны, безумоўна, мелі рацыю, таму што немцы дазволілі прымаць удзел у плебісцыце не толькі сталым жыхарам гэтых тэрыторый, але і ўсім, хто нарадзіўся ў Сілезіі, і нават тым, хто меў усяго сілезскае паходжанне. У дзень правядзення і напярэдадні плебісцыту ў Катовіцы, Глівіцы і іншыя сілезскія гарады прыбылі дзесяткі дадатковых пасажырскіх цягнікоў, якія давезлі сюды тысячы і тысячы фіктыўных удзельнікаў плебісцыту. Гэтыя прыбыўшыя немцы і схілілі чашу вагаў на нямецкі бок. Палякі не хацелі згадзіцца з гэтым. Выбухла паўстанне, а за ім другое. Абодва ўзброеныя выступленні мясцовага польскага насельніцтва былі падтрыманыя аддзеламі так званых добраахвотнікаў з цэнтральнай Польшчы. Такім чынам, палякі з дапамогай зброі намагаліся змяніць вынікі рэферэндуму. Дарэчы, яны здолелі гэта зрабіць. Канчатковая граніца паміж Польшчай і Нямеччынай на тэрыторыі Сілезіі значна адрозніваліся ад той, якая павінна была быць усталявана ў адпаведнасці з вынікамі рэферэндуму.

Дзеля справядлівасці трэба дадаць, што вынікі польскага ўзброенага паўстання ў Сілезіі і змена граніцы на карысць Польшчы ў той час праз няпоўныя 17 гадоў прывялі да новай сусветнай вайны. Гітлер выкарыстаў праблему нямецкай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, каб пачаць агрэсію.

Як бачым, негатыўны вопыт Лігі Нацый з правядзеннем плебісцытаў на польскіх граніцах даволі моцна адбіваўся на сітуацыі з правядзеннем плебісцыту на Віленшчыне.

У адрозненне ад літоўцаў, якія ўзялі курс на ўсеагульную падтрымку эміграцыйнага ўрада БНР, польскія ўлады актыўна намагаліся зрабіць уражанне, што яны будуюць на Віленшчыне агульны польска-беларускі дом, у якім беларусы будуць мець усе палітычныя і грамадскія правы. Дзеля гэтага яны не толькі запрапанавалі вядучым беларускім палітычным дзеячам адказныя пасады ў дзяржаўнай адміністрацыі Сярэдняй Літвы, але і запрапанавалі беларусам шырокамаштабную праграму разгортвання на Віленшчыне беларускага школьніцтва, закладання тут шматлікіх і разнародных культурна-асветніцкіх беларускіх нацыянальных арганізацый, развіццё беларускамоўнага друку і іншых галін беларускага нацыянальнага жыцця.

Сітуацыя вельмі нагадвала тую, калі польскія войскі першы раз занялі Вільню ў красавіку 1919 года, і сам Пілсудскі звярнуўся да беларускага грамадства на яго роднай мове з прапановамі шчырага і раўнапраўнага супрацоўніцтва. Абяцанняў сваіх, аднак, тагачасны «начальнік» польскай дзяржавы не выканаў, і гэта нарадзіла ў беларускіх дзеячаў недавер да ўсіх іншых польскіх прапаноў у далейшым. Аднак тое, што прапанавалі беларусам польскія ўлады Сярэдняй Літвы, было прапановай, ад якой цяжка было адмовіцца. Як успамінае Янка Станкевіч, які ў той час працаваў інспектарам Міністэрства асветы Сярэдняй Літвы, было дазволена адчыніць каля 200 беларускіх пачатковых і сярэдніх школ.

Шматлікія беларускія дзеячы Сярэдняй Літвы ўспрынялі прапанову супрацоўніцтва з польскага боку ў справе пабудовы супольнай польска-беларускай дзяржавы за чыстую манету і актыўна ўключыліся ў адраджэнскую працу. Здавалася, Сярэдняя Літва стане адзінай і першай на свеце дзяржавай, на тэрыторыі якой можна будзе шырока разбудаваць беларускае школьніцтва, аднавіць мову і культуру беларускага народа, пачаць аднаўляць страчаную на працягу стагоддзяў нацыянальную свядомасць.

Сярод тых, хто паверыў у гэткую магчымасць, быў і Браніслаў Тарашкевіч, які ўзначальваў беларускі аддзел у Міністэрстве асветы Сярэдняй Літвы. Тарашкевіч згуртаваў вакол сябе групу аднадумцаў-беларусаў, адданых ідэі адраджэння на Віленшчыне беларускага школьніцтва, і накіраваў іх у розныя куткі гэтай міні-дзяржавы для закладання беларускіх школ. Адным з гэтых людзей быў Янка Станкевіч, які ў 60-я гады ў ЗША нагаварыў на магнітафонную стужку свае ўспаміны пра Сярэднюю Літву. Успаміны гэтыя захоўваюцца сёння ў архіве радыё «Свабода» ў Мюнхене.

Дык вось, даволі хутка, паводле сведчанняў Янкі Станкевіча, адносіны паміж беларускімі і польскімі палітычнымі лідэрамі ў Сярэдняй Літве пагоршыліся. Звязана гэта было з тым, што ў Польшчы ўлады пачалі праводзіць антыбеларускую лінію, а Сярэдняя Літва завяршала падрыхтоўку да ўступлення ў склад Польшчы. З Варшавы, відаць, і прыйшла парада, а можа, і загад — прыпыніць гэтыя шкодныя для польскай справы «на крэсах» эксперыменты з беларускасцю.

Акрамя таго, надзеі на тое, што на Віленшчыне будзе праведзены рэферэндум пад апекай Лігі Нацый, скончыліся. Літоўцы і палякі на перамовах у Бруселі не змаглі дамовіцца адносна магчымасці правядзення плебісцыту. Літоўцы не згаджаліся, каб галасаванне адбывалася ва ўмовах, як яны сцвярджалі, польскай ваеннай акупацыі, калі літоўцы мелі вельмі абмежаваныя магчымасці свабоднай прапаганды на тэрыторыі Віленшчыны. Палякі ж не хацелі адмаўляцца ад пладоў ваеннай перамогі генерала Жэлігоўскага.

Адной з галоўных прычын пагаршэння адносін паміж беларускімі палітычнымі дзеячамі Віленшчыны і польскімі ўладамі Сярэдняй Літвы было тое, што 18 сакавіка 1921 года паміж урадамі Савецкай Расіі і Польшчы быў падпісаны Рыжскі мірны дагавор. Рыжская ўмова, як вядома, замацавала падзел Беларусі на дзве часткі паміж Расіяй і Польшчай, і большасць беларускіх незалежніцкіх дзеячаў называла яго не інакш, як ганебны. Менавіта Рыжская ўмова канчаткова пахавала апошнія надзеі свядомага беларускага грамадства на аднаўленне незалежнасці, альбо нават нейкай абмежаванай аўтаноміі Беларускай Народнай Рэспублікі. І таму, калі польскія ўлады Сярэдняй Літвы ўзялі курс на далучэнне да Польшчы, для беларусаў Віленшчыны гэта азначала не што іншае, як падтрымку рыжскай умовы. На падобнае ж маглі пайсці толькі самыя бяздушныя і беспрынцыпныя з беларускіх дзеячаў.

Да таго ж, далейшая падтрымка беларускімі дзеячамі польскіх уладаў Сярэдняй Літвы магла азначаць пагрозу збройнага канфлікту паміж самімі беларусамі. Справа ў тым, што эміграцыйны ўрад БНР вырашыў узяць курс на ўсеагульнае ўзброенае паўстанне ў абедзвюх частках (польскай і савецкай) акупаванай Беларусі. Адным з важных пунктаў канцэнтрацыі паўстанцкіх сіл і стварэння партызанскіх беларускіх атрадаў павінна была стаць і тэрыторыя Сярэдняй Літвы. Тут у Вільні быў нават створаны адзін з нелегальных цэнтраў кіравання гэтым паўстаннем на чале з А.Карабачом.

У верасні 1921 года ў Празе склікана канферэнцыя беларускіх палітычных арганізацый, якія дзейнічалі ў гэты час на тэрыторыі Літвы, Латвіі, Польшчы, Чэхаславаччыны, Нямеччыны, Сярэдняй Літвы і Савецкай Беларусі. Галоўнай мэтай яе склікання была каардынацыя ўсіх плыняў беларускага нацыянальнага руху ў справе барацьбы за аднаўленне страчанай незалежнасці. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, сацыялістаў-федэралістаў, народных сацыялістаў, беларускіх сацыял-дэмакратаў, а таксама незалежных беларускіх дзеячаў. Прыбылі сюды і прадстаўнікі прапольскай плыні беларускага руху Пятро Аляксюк і Вячка Адамовіч. Але іх прызыўны голас далучыцца да падтрымкі ўладаў Сярэдняй Літвы і Польшчы прагучаў нібыта ў пустаце. Практычна ўсе ўдзельнікі канферэнцыі засталіся глухія да гэтых заклікаў. Было ясна, што ні Польшча, ні тым болей Сярэдняя Літва не могуць і не хочуць быць прыхільнікамі, ці гарантамі беларускай незалежнасці. Пражская канферэнцыя выказала сваю поўную салідарнасць з антыбальшавіцкім народным змаганнем на Случчыне і прыняла пастанову, што толькі такім чынам можна аднавіць беларускую незалежнасць.

На канферэнцыі неаднаразова падкрэслівалася здрадніцкая пазіцыя Польшчы падчас Слуцкага паўстання. Значная частка будучых слуцкіх паўстанцаў бараніла Польшчу падчас наступлення Тухачэўскага на Варшаву, а калі дапамога была патрэбная з боку палякаў у справе барацьбы за беларускую незалежнасць, дык палякі пастараліся зачыніць мяжу і спакойна чакалі, пакуль бальшавікі задушаць паўстанне. Для Польшчы вайсковы беларускі незалежніцкі рух уяўляў такую самую пагрозу, як і для бальшавікоў. Польскія ўлады і расійскія бальшавікі былі заклятымі ворагамі, але ў дачыненні да беларускай справы яны былі натуральнымі хаўруснікамі, і гэтага маглі не разумець у той час толькі абыякавыя да беларускай справы людзі.

Пражская канферэнцыя адкінула Рыжскі дагавор, назвала яго здзекам з беларускай нацыі і заклікала ўсе жывыя і адданыя беларускай справе сілы аб'яднацца вакол эміграцыйнага ўрада Рады БНР дзеля «барацьбы за нацыянальнае адраджэнне беларускага народа і аднаўленне беларускай незалежнасці».

Канферэнцыя абвясціла галоўны лозунг беларускага нацыянальнага руху: «Ні з Варшавай, ні з Масквой, а з беларускім народам». Было таксама вырашана звярнуцца да Лігі Нацый з заклікам падтрымаць барацьбу беларускага народа супраць «белых і чырвоных асімілятараў».

*(Працяг будзе).*

---

...Непобедимая и легендарная
В боях познавшая радость побед!..

— У капэзэ яго! — загадаў мэр міліцыянтам.

●

Па гэтаму часу адна замежная радыёстанцыя паведаміла, што ў правінцыйным горадзе Лабідудава парушаецца свабода слова і правы чалавека. Слухачы пачулі пра галадоўку жыхара вуліцы «Бургундыя-Днепр» Курчэўскага і пра яго арышт. Неўзабаве гэта інфармацыя трапіла і на старонкі французскай газеты, а адтуль праз прэсу дайшла і да мадам Гурон. У інтэрв'ю радыё і тэлебачанню мадам Гурон вельмі пакрыўдзілася на лабідудаўскія ўлады і раптам паведаміла, што ў знак пратэсту адмяняе свой запланаваны візіт, а ў знак салідарнасці і падтрымкі беднага настаўніка, жыхара вуліцы, названай у гонар яе сына і яго сяброў, таксама аб'яўляе галадоўку.

Заява была адразу перададзена ў французскую амбасаду і ў той жа дзень стала вядома і ў канцылярыі ўрада. Наспяваў буйны міжнародны скандал.

Некалькі прадстаўнікоў аблвыканкама, службы бяспекі, два інспектары абласнога аддзела культуры, адзін з якіх быў калісьці высланы з Літвы, а другі з Эстоніі за камуністычную дзейнасць і прапаганду, а таксама ўласны карэспандэнт абласной газеты «Сталічная праўда» па Лабідудава Шалей адразу выехалі, каб разабрацца на месцы.

Шалей быў накіраваны з камісіяй адмыслова. Рэдактар газеты загадаў яму напісаць пра тое, як цудоўна жывуць на вуліцы «Бургундыя-Днепр» людзі розных нацыянальнасцяў. Сам Шалей раней працаваў у раёнцы, дзе звярнуў на сябе ўвагу шэрагам артыкулаў па свінагадоўлі, потым быў загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі райкама партыі, скончыў вэпэша, а пасля «развалу» нечакана трапіў у «Сталічную праўду». Кандыдатуру на яго месца шукалі па вядомым прынцыпе: прапанавалі спачатку «свайго» чалавека. Але той не ведаў мовы. Тады зрабілі «агледзіны» нейкаму «бежанцу», потым азіяту, але тыя нават граматыкай не валодалі. Шалей жа хоць і быў беларус, родам з Лабідудаўшчыны, надта не любіў сваё, нацыянальнае, і гэта вырашыла выбар. Да таго ж Шалей добра асвятляў работу буйнога свінакомплексу.

Мэр Пузановіч у гэты час быў якраз у сябе ў кабінеце з Гепеушыным і глядзеў тэлевізар, па якім выступаў у чарговы раз беларускі паэт Шашкоў. Шашкоў вёў «круглы стол», за якім падбухторваў прысутных і гледачоў хутчэй уводзіць у якасці другой дзяржаўнай расейскую мову і адмовіцца па сутнасці такім чынам ад сваёй роднай. Мэр з Гепеушыным так упадабалі гэта, што Пузановіч выклікаў сакратарку і загадаў падрыхтаваць праект аб прысваенні Шашкову звання ганаровага грамадзяніна Лабідудава. Гепеушын жа прыватна папрасіў мэра, каб Шашкову ў знак асаблівай пашаны выслалі пакет з гуманітарнай дапамогай, і мэр ахвотна даў згоду. Але тут дзверы адчыніліся і ў пакой увайшлі незнаёмыя людзі.

— Хто такія? — незадаволена ўзняўся з крэсла мэр.

— А немцы ў вас чаму? — замест адказу раптам спытаў адзін малады чалавек з тых, хто зайшоў. І ён тыцнуў пальцам у Гепеушына, апранутага ў гуманітарную вопратку.

Мэр, які ўжо ўцяміў, што прыехала начальства са сталіцы і не якое-небудзь, а, пэўна, «вертыкаль», пачаў нешта блытана тлумачыць. Але пакрыўджаны Гепеушын завішчэў, што ён падпалкоўнік у адстаўцы, а не якісьці там немец. На гэта малады чалавек са службы бяспекі моўчкі схапіў яго за каўнер шыняля і выштурхнуў за дзверы.

— Вы газеты чытаеце, радыё слухаеце? — працягваў дапытвацца прадстаўнік улады.

Пузановіч адчуў сябе няўтульна.

— А што здарылася? — пацікавіўся ён.

— Вось паедзем і зірнём на свае вочы, — пахмурна сказаў чалавек з канцылярыі аблвыканкама і загадаў: — На вуліцу «Бургундыя-Днепр».

Толькі па дарозе мэр урэшце даведаўся, што міжнародны скандал, якога ён так баяўся, адбыўся, што мадам Гурон у знак пратэсту галадае і што французскі абмасадар вельмі незадаволены.

Праз хвіліну ўся група выйшла з машын і пачала рабіць агляд вуліцы. Як толькі яны ступілі некалькі крокаў, то дасягнулі вялізнай гары смецця, ля якой у бруднай лужыне ляжаў кормнік.

— Дык гэтак вы ўпарадкавалі вуліцу? — злосна спытаў мэра прадстаўнік улады, шукаючы куды паставіць чаравік, каб не трапіць у гразь.

Узброены дыктафонам улкар Шалей між тым пабег да шатроў, дзе зрабіў запіс пра тое, як жывецца ў Лабідудава навасёлам, але калі ў яго пачалі выцягваць з кішэняў і вырываць з рук дыктафон, хуценька рэтыраваўся. Тут ён заўважыў кормніка і аж затрымцеў: Шалей вельмі любіў пісаць пра свіней. Улкар вырашыў неадкладна запісаць на дыктафон і свіное рохканне. Шалей наблізіўся да кормніка, уключыў тэхніку і тыцнуў дыктафон у свіны лыч. Але кормнік раптам разявіў пашчу і ўхапіў дыктафон зубамі. Пачулася храбусценне. Шалей анямеў, а потым апантана пацягнуў за рэмень тэхніку са свіной пашчы. Неасцярожна ён наступіў на хвост кормніка. Той азвярэла рохкнуў і ўскочыў, распырскваючы procьму бруду.

— Дзядзечкі, сцеражыцеся! — закрычаў хлопчык, які добра ведаў злосны нораў жывёлы, але было позна.

Дзесяціпудовы кормнік нібы танк рынуў на купку візіцёраў. Прадстаўнік аблвыканкама, які прыняў удар першым, задраў ногі і заараў у смецце. Уласны карэспандэнт Шалей кінуўся наўцёк, але атрымаў у азадак і ўехаў пысай у лужу. Ад удара лыча ў жывот мэр Пузановіч са стогнам зваліўся ў запоўнены гнілой вадой яр. Кормнік увайшоў у смак ад блізкай перамогі, развіў поспех і паклаў долу двух інспектараў культуры і агента службы бяспекі.

Бляклае восеньскае сонца схавалася ў хмарах. З шатроў выбеглі цыганы і назіралі пабоішча.

●

Раніцой, як толькі дзверы камеры адчынілі, настаўнік Курчэўскі патрабаваў, каб яго зноў тэрмінова адвялі да пракурора. Неўзабаве ён ужо сядзеў у кабінеце Буракевіча.

— Хачу ў другую камеру, — папрасіўся Курчэўскі.

— Чаму? — здзівіўся Буракевіч.

Курчэўскі шчыра растлумачыў, што сядзець у адным пакоі з трактарыстам Баранам больш не мае сілы, таму што пралетар усю ноч спяваў адну і тую ж песню пра армію, а ў перапынках псаваў паветра.

Буракевіч уздыхнуў з палёгкай. Ён агледзеў змарнелага вязня, палез у стол, выцягнуў адтуль бохан хлеба і кавалак кілбасы.

— Спыняйце галадоўку, ці назад у камеру, да гэтага, як яго... Барана, — сказаў Буракевіч.

Бунтаўшчык падумаў, павагаўся, раптам моўчкі схапіў бохан і кілбасу, адкусіў па ладным кавалку і апантана запрацаваў сківіцамі.

З вачэй пераможанага цяклі слёзы.

